• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 700 рублёў

23 студзеня 1996 г. аўторак, №№ 20-21 (22823— 22824)





# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

*СКАНДАЛ*

### ЛЕКІ З ПАДПОЛЬНАЙ АПТЭКІ

**Дзялкі «ценявога» бізнесу, аказваецца, папаўняюць свае кішэні не толькі за кошт аматараў спіртнога, але робяць грошы і на здароўі людзей.**

18 студзеня ў Мінску, у звычайнай трохпакаёвай кватэры, супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС краіны была выяўлена падпольная аптэка. Нелегальныя фармацэўты дзейнічалі па звыклай для «ценевікоў» схеме. Закрытае акцыянернае таварыства «Спекорд» зусім законна атрымала ліцэнзію на аптовы гандаль лекамі. Аднак хутка камерсанты скемілі, што гандляваць оптам куды больш складана, чым дробнымі партыямі, і вырашылі «перабудавацца». Праўда, для расфасоўкі лекаў патрэбна была спецыяльная ліцэнзія. У сваю чаргу для атрымання такога дакумента трэба мець спецыяльна абсталяванае памяшканне і прылады. А гэта каштуе немалых грошай. ЗАТ «Спекорд» знайшло больш просты шлях. Цэх па расфасоўцы лекаў размясцілі ў ... звычайнай трохпакаёўцы звычайнага жылога дома. Вядома, ні аб якіх санітарна-гігіенічных патрабаваннях ніхто не клапаціўся. Працавала гэтая аптэка ўсё роўна нелегальна. Лекі расфасоўвалі на дробныя партыі звычайным пластмасавым саўком, на звычайным кухонным стале. Рэалізоўвалі медыкаменты саматужнікі-фармацэўты пераважна перыферыйным аптэкам. Хворыя людзі, якія набывалі гэтыя прэпараты, і не падазравалі, у якіх антысанітарных умовах былі расфасаваны лекі і што яны могуць несці пагрозу здароўю. Да таго ж падпольная аптэка магла прынесці шмат непрыемнасцей і жыхарам дома, дзе яна размяшчалася. Усё-такі жылая кватэра не прыстасавана пад фармацэўтычны цэх, і «водар» ад шматлікіх прэпаратаў, мякка кажучы, экалогію не паляпшаў.

Дарэчы, падпольныя аптэкары дзейнічалі з немалым размахам. Толькі падчас вобыску тут было знойдзена больш за 300 кілаграмаў лекаў 18 найменняў.

Так што кліентамі гэтай фармацэўтычнай «лавачкі» самі таго не хочучы былі, пэўна, тысячы нашых суграмадзян.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### НА БАКУ РАДУЕВА ПРЫМАЎ УДЗЕЛ У АПЕРАЦЫІ І БЕЛАРУС?

**Як стала вядома праз расійскія сродкі масавай інфармацыі, якія трансліравалі прэс-канферэнцыю па падзеях у Першамайскім (удзельнічалі ў ёй міністр МУС Расіі і кіраўнік ФСК), сярод баевікоў Радуева быў і адзін беларус.**

У прыватнасці, было заяўлена, што прозвішча гэтага беларуса Грабянюк.

Мы паспрабавалі ўдакладніць гэтую інфармацыю ў кампетэнтных органах Беларусі. Аднак на дадзены момант абвергнуць або пацвердзіць гэта паведамленне там не змаглі. Газеце толькі дакладна вядома, што КДБ рэспублікі зрабіў запыт па гэтаму факту ў Маскву.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### АЛЁ, ГЭТА КДБ?..

**Днямі пры Камітэце дзяржаўнай бяспекі Беларусі пачаў працаваць так званы «тэлефон даверу». Для цікаўных: званкі (у тым ліку ананімныя) прымаюцца па нумары 299-299.**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў прэс-службе КДБ, новаўвядзенне тлумачыцца даволі проста — жаданнем атрымаць аб'ектыўныя і сапраўдныя звесткі аб маючых адбыцца ў краіне злачынствах. Дарэчы, гэта крыніца інфармацыі не з'яўляецца вынаходкай беларускай дзяржбяспекі: практыка работы пры спецслужбах «тэлефонаў даверу» існуе амаль ва ўсім свеце. Прайшла яна апрабацыю і ў некаторых абласных упраўленнях КДБ на Беларусі. На пытанне, ці ёсць рызыка выкарыстання тэлефона ў палітычных мэтах, у прэс-службе камітэта адказалі адмоўна. Дай жа Божа, як кажуць.

**Сяргей ГРЫБ.**

## СНД: РУХ ДА ДОБРААХВОТНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ

**Нічога звыш нечаканага на праведзеным 19 студзеня маскоўскім самміце не адбылося. Аб гэтым заявіў у аэрапорце «Унукава» перад адлётам у Мінск Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Паводле слоў кіраўніка беларускай дэлегацыі, адным з важнейшых рашэнняў, прынятых на сустрэчы вярхоў, стала Палажэнне аб паскарэнні работы па расшырэнню мытнага саюза і стварэнню плацежнага саюза СНД.**

Як адзначалі ўдзельнікі сустрэчы, створаны Беларуссю, Казахстанам і Расіяй мытны саюз з'яўляецца «прынцыпова новым тыпам узаемаадносінаў паміж дзяржавамі СНД». Першыя яго крокі паказалі значную эканамічную эфектыўнасць. Паводле папярэдніх даных, вырас як знешні, так і ўнутраны тавараабарот дзяржаў—удзельніц саюза. Як адзначалася ў ходзе дыскусій, пасля стварэння мытнага саюза было б лагічна сфарміраваць і плацежны саюз. Гэта зрабіла б станоўчы ўплыў на гандлёва-эканамічныя адносіны паміж дзяржавамі, што ў сваю чаргу садзейнічала б стварэнню паўнацэннага мытнага саюза.

У абмеркаванні гэтага пытання актыўны ўдзел прыняў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які асаблівую ўвагу ўдзяліў праблемам і перспектывам расшырэння інтэграцыйных працэсаў.

Як адзначыў, выступаючы на самміце Барыс Ельцын, «пасля перыяду размежавання настаў пералом на карысць інтэграцыйнага супольніцтва дзяржаў. Развеяліся ілюзіі, што ў адзіночку мы хутчэй вырашым свае праблемы, станем паўнапраўнымі членамі сусветнага супольніцтва». Кіраўнікі дзяржаў канстатавалі: умацаванне шматбаковых сувязей паміж нашымі краінамі нясе рэальныя выгады.

Дарэчы, у той жа дзень кіраўнікі ўрадаў Беларусі, Казахстана і Расіі Міхаіл Чыгір, Акежан Кажэгельдзін і Віктар Чарнамырдзін падпісалі рашэнне, згодна з якім каардынацыя ўзаемадзеянняў з міністэрствамі і ведамствамі дзяржаў—удзельніц мытнага саюза ўскладзена на Міждзяржаўны эканамічны камітэт СНД.

Кіраўнікі краін аднагалосна адобрылі Канцэпцыю аховы паветранай прасторы дзяржаў—удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У яе аснову пакладзены прынцыпы аховы паветранай прасторы дзяржаў-удзельніц: цэласнасць іх паветранай прасторы і іх знешніх граніц, усебаковае супрацоўніцтва па ахове знешніх граніц у паветранай прасторы, узаемная павага суверэнітэту і роўнасць, узаемная адказнасць за забеспячэнне надзейнай аховы свайго ўчастка знешняй граніцы з улікам інтарэсаў бяспекі ўсіх дзяржаў-удзельніц, прызнанне прыярытэтнасці сумесных рашэнняў, прынятых на аснове кансенсусу, і іншыя.

Каменціруючы вынікі пасяджэння, Прэзідэнт Беларусі адзначыў узважанасць пры галасаванні па чыста ваенных пытаннях, у прыватнасці, звязаных з Таджыкістанам. Ён паведаміў, што беларуская дэлегацыя заявіла аб асобай пазіцыі і не падтрымала прапанаваныя Грузіяй меры па ўрэгуляванню канфлікту ў Абхазіі. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што фактычна было прапанавана ўвесці блакаду супраць Абхазіі і яе жыхароў. «Па-першае, мы не валодаем там сітуацыяй, а па-другое, Рэспубліка Беларусь у свой час выступіла супраць блакады ў адносінах да Югаславіі», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Асобную думку выказаў Прэзідэнт Беларусі і пры падпісанні Палажэння аб калектыўных сілах па падтрыманню міру ў СНД, якое вызначае парадак правядзення аперацый па падтрыманню міру ў рэспубліках Садружнасці, састаў, задачы і функцыі калектыўных міратворчых сіл. У прыватнасці, у зробленым Аляксандрам Лукашэнкам запісе на гэтым дакуменце падкрэслена, што Беларусь ніколі не будзе пасылаць сваіх салдат на чужую зямлю.

Паводле слоў Прэзідэнта Беларусі, на маскоўскай сустрэчы абмеркаваны практычна ўсе пытанні, унесеныя ў парадак дня.

У прыватнасці, прынята рашэнне аб стварэнні Савета міністраў унутраных спраў краін СНД. Усе ўдзельнікі сустрэчы выказалі гатоўнасць аб'яднацца і дзейнічаць агульнымі сіламі супраць тэрарыстаў. Савет кіраўнікоў дзяржаў СНД зацвердзіў Палажэнне аб сцягу Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Прэзідэнты дагаварыліся прыняць неабходныя меры па ўстанаўленню ў заканадаўстве іх краін адказнасці за дзеянні, якія наносяць урон годнасці сцяга СНД.

Дасягнута таксама дагаворанасць аб правядзенні ў першым паўгоддзі ў Мінску І кангрэса дзеячаў культуры дзяржаў—удзельніц СНД. У мэтах падрыхтоўкі да гэтага мерапрыемства вырашана стварыць арганізацыйны камітэт. Палічана таксама неабходным утварыць Фонд падтрымкі культурнага супрацоўніцтва СНД. Прадугледжваецца, што ўстаноўчыя дакументы будуць разгледжаны на наступным пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў СНД.

Прэзідэнты краін Садружнасці адобрылі таксама Праграму культурнага супрацоўніцтва дзяржаў—удзельніц СНД на 1996 год.

Выбраны трэці раз Старшынёй Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД Барыс Ельцын на падагульняючай канферэнцыі назваў галоўным вынікам сустрэчы «канчатковае фарміраванне ў краін Садружнасці тэндэнцыі руху да добраахвотнай інтэграцыі».

Наступная сустрэча Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД адбудзецца ў маі бягучага года ў Маскве.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

## *С. ШАРЭЦКІ:* «ПАРЛАМЕНТ НАСТРОЕНЫ ПРАЦАВАЦЬ НА СУВЕРЭНІТЭТ БЕЛАРУСІ»

«Палітыка неабходная грамадству, але гэта павінна быць не «брудная» палітыка, за якой стаяць людзі з нячыстай душой, а тая, што робіцца людзьмі падрыхтаванымі, якія ўсведамляюць адказнасць перад народам», — заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета краіны Сямён Шарэцкі, выступаючы 20 студзеня на другім Нацыянальным кангрэсе маладых палітыкаў і дзелавых людзей «Беларусь на парозе двух стагоддзяў і двух тысячагоддзяў». Ён расказаў аб сваім бачанні дзейнасці парламента рэспублікі, падкрэсліўшы, што яго галоўная задача — вызначыць унутраную і знешнюю палітыку краіны, стварыць прававы калідор для яе рэалізацыі. На думку Сямёна Шарэцкага, за той кароткі час, што дэпутаты працуюць, зроблена нямала: выбраны старшыні ўсіх 15 пастаянных камісій, актыўна фарміруецца іх састаў. Прайшло і першае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Вырашана, што асноўная работа па заканатворчасці пераносіцца ў камісіі. Напрацаваныя матэрыялы будуць узгадняцца з фракцыямі і толькі потым выносіцца на сесіі.

«А першае, што нам важна прыняць, — гэта бюджэт на бягучы год, — падкрэсліў спікер парламента. — Прыярытэт у выдзяленні сродкаў атрымаюць сацыяльныя праграмы. Мы таксама маем намер падтрымаць ахову здароўя,

(Заканчэнне на 2-й стар.).

*СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»*

**Мікалай КАРПІЕВІЧ:**

## «Я ВЫДАТНА РАЗУМЕЮ, ЯКІ ЦЯЖАР АДКАЗНАСЦІ БЯРУ НА СЯБЕ»



***Абранне Мікалая Карпіевіча на пасаду старшыні парламенцкай Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю стала нечаканасцю нават улічваючы адносна высокую прадказальнасць цяперашняга Вярхоўнага Савета. Па-першае, Мікалай Фёдаравіч — палітык малады і ў прамым і ў пераносным сэнсе. Па-другое, патэнцыяльных прэтэндэнтаў на пасаду старшыні гэтай камісіі ў парламенце было шмат. Ды і падчас выбараў кіраўніка камісіі ў Мікалая Карпіевіча быў вельмі моцны сапернік — экс-старшыня КДБ генерал Уладзімір Ягораў. І ўсё ж калегі-дэпутаты аказалі давер менавіта трыццацішасцігадоваму маёру міліцыі, які да гэтага ўзначальваў Камітэт па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і кіравання Адміністрацыі Прэзідэнта.***

***Прапануем вашай увазе першае інтэрв'ю Мікалая Карпіевіча на пасадзе старшыні парламенцкай Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю.***

**— Мікалай Фёдаравіч, ужо будучы дэпутатам Вярхоўнага Савета, у жніўні мінулага года вы ўзначалілі Камітэт па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і кіравання. Тады, адразу ж пасля новага прызначэння, у інтэрв'ю «Звяздзе» вы заявілі, што не збіраецеся пераходзіць на пастаянную працу ў парламент.**

**Што (ці хто) прымусіла вас змяніць свае працоўныя планы?**

— Доўг перад выбаршчыкамі. Магчыма, гэта гучыць занадта ўзнёсла і нават банальна, але, паверце, я гавару шчыра. У сваіх перадвыбарных выступленнях я абяцаў людзям, што ў парламенце сканцэнтрую свае сілы, вопыт і веды на праблеме барацьбы са злачыннасцю. І ў той час планаў пакідаць антыкарупцыйны камітэт у мяне не было. Наадварот, я лічыў, што, знаходзячыся на такой адказнай і даволі высокай пасадзе, здолею лепш выконваць і свае перадвыбарныя абяцанні. Пра пасаду старшыні парламенцкай камісіі я не думаў. Таму, першапачатковая прапанова калег-дэпутатаў заняць гэту пасаду была для мяне нечаканасцю.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ ВЫБРАННІ ПЕРШАГА НАМЕСНІКА І НАМЕСНІКАЎ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Новікава** Васіля Мікалаевіча, намеснікамі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — **Карпенку** Генадзя Дзмітрыевіча і **Малумава** Юрыя Георгіевіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**
18 студзеня 1996 г., г. Мінск.
№ 10—XIII

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЧАСОВЫ РЭГЛАМЕНТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Часовы рэгламент Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (ЗЗ БССР, 1990 г., №17, арт.255; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., № 30, арт.504) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Дапоўніць раздзел І артыкулам 3а:

«Артыкул 3а. Адзіны спіс — гэта спіс кандыдатур для адначасовага выбрання Першага намесніка і намеснікаў Старшыні Вярхоўнага Савета, а таксама старшынь камісій, іх намеснікаў, старшынь падкамісій, які ўключае пералік прэтэндэнтаў па аднаму на кожную з указаных пасад».

2. Артыкул 10 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 10. Пасяджэнні Вярхоўнага Савета правамоцныя, калі на іх прысутнічае больш палавіны агульнай колькасці выбраных дэпутатаў».

3. Артыкул 19 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«Дэпутат Вярхоўнага Савета можа быць толькі ў адной дэпутацкай фракцыі (дэпутацкай групе)».

4. У артыкуле 45:

частку першую дапоўніць сказам: «У структуры пастаянных камісій могуць утварацца падкамісіі Вярхоўнага Савета»;

частку восьмую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Старшыні, намеснікі старшынь, сакратары пастаянных камісій, старшыні падкамісій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь працуюць толькі на прафесійнай аснове»;

частку дзесятую пасля слоў «сакратароў пастаянных камісій» дапоўніць словамі «старшынь падкамісій»;

частку адзінаццатую пасля слоў «сакратароў пастаянных камісій» дапоўніць словамі «старшынь падкамісій».

5. Частку другую артыкула 52 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«У склад Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь уваходзяць Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, намеснікі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, кіраўнікі дэпутацкіх фракцый (дэпутацкіх груп) Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (па аднаму ад кожнай дэпутацкай фракцыі (дэпутацкай групы), якія налічваюць у сваім складзе не менш 30 дэпутатаў; два дэпутаты — па рашэнню Вярхоўнага Савета».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
16 студзеня 1996 г., г. Мінск
№8 —XIII.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ МІНІСТЭРСТВА СТАТЫСТЫКІ І АНАЛІЗУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у снежні 1995 года склала 1.065.829 рублёў (у лістападзе была 944.121 рубель). У студзені—снежні 1995 года яна склала 802.918 рублёў і павысілася ў параўнанні са студзенем—снежнем 1994 года ў 7,7 раза.

## «ПАРЛАМЕНТ НАСТРОЕНЫ ПРАЦАВАЦЬ НА СУВЕРЭНІТЭТ БЕЛАРУСІ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

адукацыю, навуку і культуру. І пастараемся зрабіць усё, што залежыць ад заканадаўцаў, каб дзяржава набыла сваё нацыянальнае аблічча. Упэўнены, што пры цяперашнім Вярхоўным Савеце ніякага аб'яднання Беларусі з якой-небудзь краінай на дзяржаўным узроўні не адбудзецца. Мы будзем умацоўваць і развіваць суверэнітэт».

Потым Сямён Шарэцкі адказаў на пытанні з залы, і ў першую чаргу аб тым, якая ўвага будзе ўдзелена моладзі. «Самая пільная, — запэўніў ён. — У Вярхоўным Савеце фарміруецца падкамісія па праблемах моладзі. Яе абавязкова ўзначаліць хто-небудзь з маладых дэпутатаў. Акрамя таго, у бюджэце мы пастараемся выдзеліць сродкі на маладзёжныя праграмы і зафіксаваць гэта асобным радком».

На пытанне аб тым, як складваюцца яго адносіны з Прэзідэнтам краіны, Сямён Шарэцкі адзначыў, што меў ужо некалькі сустрэч з Аляксандрам Лукашэнкам. Усе яны праходзілі ў атмасферы ўзаемаразумення і добразычлівасці. Ён асабліва падкрэсліў, што ў іх няма рознагалоссяў па ключавых праблемах жыцця краіны, і выказаў надзею, што канструктыўнае супрацоўніцтва выканаўчай і заканадаўчай улад прынясе бачныя вынікі ўжо ў бліжэйшай будучыні.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.**

## У ПОШУКАХ ТАННАЙ СВІНІНЫ

**У нядзелю ранішнія электрычкі з Мінска да Пухавіч (а станцыя Пухавічы, як вядома, знаходзіцца ў Мар'інай Горцы — раённым цэнтры Пухаўшчыны) на дзіва перапоўненыя. Хаця і дачны сезон даўно завяршыўся, ды і пачатак яго не хутка. А людзі ўсё едуць. Прычына такой руплівасці адна: наведаць мар'інагорскі базар.**

Сама яго тэрыторыя знешне нічым адметным не вызначаецца. Гандлююць у Мар'інай Горцы ўсім: і прадуктамі харчавання, і прамысловымі таварамі, і ўсялякай старой драбязой. Перш чым наведаць гаспадарчую краму, прайдзіцеся паміж базарных радоў. Як правіла, старыя дзядзькі, пачысціўшы свае хатнія майстэрні альбо шуфлядкі, выносяць на базар розны інструмент, электрычныя выключальнікі, разеткі, шрубы, запчасткі да веласіпеда ці нават матацыкла. У параўнанні з цэнамі ў крамах вас тут чакае скідка да 20, а то і 30 працэнтаў. Калі атрымаць такую скідку на некалькіх рэчах, то розніца атрымліваецца істотная.

Што яшчэ кідаецца ў вочы, дык гэта багаты асартымент рыбы. Не горш чым на Камароўцы. А селядцоў дык і ўвогуле на дзіва шмат. Прадаюць іх з невялікіх пластмасавых бочак. Выгляд самы што ні ёсць апетытны.

Але ж спяшаюцца мінчане ў Мар'іну Горку зусім па другой прычыне — каб набыць добры кавалак свініны. На базары ў райцэнтры свежае сала можна набыць па 22, 23, 25 тысяч рублёў за 1 кілаграм. Добрыя кавалкі, дзе сала чаргуецца з мясной праслойкай, каштуюць 30 тысяч рублёў (часам крыху болей або нават меней) за 1 кілаграм вагі. Выразка, што так і просіцца, каб яе парэзалі на адбіўныя ды і ў духовачку, — усяго толькі 35.000 рублёў за 1 кілаграм. Атрымліваецца, што ёсць сэнс узяць білет на электрычку коштам 11.200 рублёў (гэта ў абодва бакі), ды і наведацца на базар у недалёкі раённы цэнтр.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## У 1995 ГОДЗЕ Ў БЕЛАРУСКІХ УЗБРОЕНЫХ СІЛАХ ПА РОЗНЫХ ПРЫЧЫНАХ ЗАГІНУЎ 101 ВАЕННАСЛУЖАЧЫ

**Паводле звестак Беларускай ваеннай пракуратуры, ваеннаслужачымі часцей беларускага войска ў мінулым годзе ўчынена 897 злачынстваў, што на 28 працэнтаў менш, чым у 1994-м.**

Аб гэтым БелаПАН паведаміў намеснік Генеральнага пракурора рэспублікі, Беларускі ваенны пракурор генерал-маёр юстыцыі Анатоль Глюкаў. З агульнай колькасці ўсіх зарэгістраваных злачынстваў 82 — выпадкі нестатутных узаемаадносінаў (у 1994 годзе іх было 115), 253 — факты ўхілення ад воінскай службы (у 1994-м — 457), 438 — агульнакрымінальныя злачынствы (у 1994-м — 526). Доля найбольш цяжкіх злачынстваў у аб'ёме агульнакрымінальных знізілася на 10 працэнтаў. У 1995 годзе іх было зафіксавана 264. Па словах А. Глюкава, па колькасці ўчыненых у войску злачынстваў беларускія Узброеныя Сілы вярнуліся на ўзровень 1990—1991 гадоў, моманту, які папярэднічаў развалу СССР, калі паказчыкі злачыннасці ў Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акрузе былі аднымі з самых нізкіх ва ўсёй Савецкай Арміі. На сённяшні дзень, як сцвярджае Беларускі ваенны пракурор, злачыннасць у часцях Узброеных Сіл на 1000 ваеннаслужачых прыкладна на 30 працэнтаў ніжэй, чым у войсках Расіі, Украіны і Казахстана. У выніку аўтамабільных катастроф, парушэння тэхнікі бяспекі пры правядзенні работ і абслугоўванні тэхнікі, самагубстваў, парушэння правілаў карыстання зброяй і па шэрагу іншых прычын у мінулым годзе ў беларускім войску загінуў 101 ваеннаслужачы. З іх 42 скончылі жыццё самагубствам. У 1994 годзе органамі пракуратуры такіх выпадкаў было зафіксавана 37. Сярод асноўных прычын, па якіх людзі добраахвотна развітваюцца з жыццём, А. Глюкаў адзначыў перш за ўсё наступствы экалагічнай катастрофы, якія прыводзяць да змяненняў у псіхіцы чалавека, пагаршэнне матэрыяльнага становішча, асабістую і сямейную неўладкаванасць, няўпэўненасць асобных прадстаўнікоў маладога пакалення ў заўтрашнім дні. Толькі адзін ваеннаслужачы скончыў жыццё самагубствам на глебе нестатутных узаемаадносінаў. Па словах Анатоля Глюкава, на працягу апошніх дзесяці гадоў колькасць выпадкаў суіцыду ў войску расце і, мяркуючы па сучаснай абстаноўцы ў дзяржаве і грамадстве, у бліжэйшы час яна не зменшыцца.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## *КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ*

### КОЛЕМСЯ

У 1994—1995 гадах за парушэнне заканадаўства, якое датычыць наркатычных рэчываў і іх абароту, затрымана больш чым 100 грамадзян з 18 краін свету.

Паводле ацэнак спецыялістаў, больш як 30 працэнтаў канфіскуемых з незаконнага абароту наркотыкаў паступае з-за мяжы. Павышаецца так званы ўзровень наркатызацыі. Калі ў 1994 годзе было канфіскавана 963 кг наркотыкаў і сыравіны для іх прыгатавання, то ў 1995-м — больш чым 1,5 тоны.

У Брэсце супрацоўнікамі УБАП затрыманы на адной з кватэр трое ўраджэнцаў Азербайджана і двое жыхароў Беларусі. Пры вобыску ў іх выяўлена і канфіскавана 300 мілілітраў экстракту опію і больш як 2 кг макавай саломкі.

### АБ «КАРЫСЦІ» ЎЖЫВАННЯ АЛКАГОЛЮ

Працягваюць мець месца выпадкі вымагання. Дарэчы, з ліку затрыманых у 1995 годзе ў Мінску вымагальнікаў каля 70 працэнтаў — гэта асобы, якія ўжываюць наркотыкі.

У Кастрычніцкі РАУС г. Мінска звярнуўся інжынер аднаго са сталічных прадпрыемстваў з заявай аб вымаганні. Пры разборы па гэтаму факту высветлілася, што бесклапотнасць і неасцярожнасць праявіў сам пацярпеўшы. Запрасіўшы да сябе дамоў знаёмага, якога бачыў толькі аднойчы ля піўнога ларка, пачаў з ім распіваць спіртныя напіткі. Пасля пэўнай дозы знаёмы, пагражаючы фізічнай расправай, забраў у інжынера 250 долараў ЗША. За гэта злачынства затрыманы раней судзімы, без пэўнага месца жыхарства грамадзянін. Узбуджана крымінальная справа.

### У СЯБЕ Ў КВАТЭРЫ

Не можа не хваляваць рост забойстваў на бытавой глебе і з карыслівымі мэтамі.

У ноч з 17 на 18 студзеня ў час сваркі ў сваёй кватэры быў забіты рабочы аднаго з бабруйскіх заводаў. Забойца, а ім аказалася жонка забітага, затрыманы.

Таксама ў сваёй кватэры, але ўжо ў горадзе Віцебску, выяўлены труп гаспадыні кватэры. Па заключэнню судова-медыцынскай экспертызы, смерць наступіла ад задушэння. Прынятымі мерамі ўдалося ўстанавіць, што забойства ўчыніў вучань 12 класа вячэрняй школы, які затрыманы. Матывы злачынства ўстанаўліваюцца.

### ЧЫТАЙЦЕ КРЫМІНАЛЬНУЮ ХРОНІКУ

У друку, па радыё і тэлебачанні рэгулярна можна чытаць, чуць і бачыць сюжэты аб тым, як папярэдзіць злачынства, як засцерагчы сябе, дом, аўтамабіль. Але, відаць, ёсць людзі, якія не сябруюць са сродкамі масавай інфармацыі і самі сябе караюць.

У горадзе Магілёве ў дзверы кватэры, дзе жыве адна пенсіянерка, пазванілі. Не спытаўшы хто, жанчына адразу адчыніла дзверы. Невядомы спакойна ўвайшоў у дом і пад пагрозай нажа вынес тэлевізар «Віцязь».

Такі ж выпадак адбыўся і ў Віцебску. Тут ужо вынеслі халадзільнік «Мінск». Работнікам міліцыі нескладана было знайсці і затрымаць з такім «трафеем» начнога візіцёра, але трэба неяк і самім клапаціцца аб захаванасці сваёй маёмасці.

**Пётр РАБКАВЕЦ. Прэс-цэнтр МУС Рэспублікі Беларусь.**

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА

4 студзеня 1996 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падпісаў Распараджэнне аб перадачы Камітэта па барацьбе з карупцыяй у органах улады і кіравання з саставу Адміністрацыі Прэзідэнта ў састаў апарату Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛТА.**

## КОЛЬКІ КАШТАВАЛІ РУБЛЁВЫЯ КРЭДЫТЫ Ў СНЕЖНІ

**Паводле звестак Нацыянальнага банка, у цэлым па банкаўскай сістэме рублёвыя крэдыты каштавалі ў сярэднім 73,39 працэнта гадавых.**

У буйных банках гэты паказчык вагаўся ў межах ад 60 да 90 працэнтаў гадавых. Так, па «Беларусбанку» ён склаў 72,47 працэнта гадавых, па «Белаграпрамбанку» — 87,45, «Белбізнесбанку» — 89,87, «Белзнешэканомбанку» — 86,06, «Белпрамбудбанку» — 60,79, банку «Алімп» — 82,21, «Пріорбанку» — 83,65, банку «Поіск» — 79,99 працэнта.

Даражэй за астатнія крэдыты выдавалі ў мінулым месяцы банк Андрэя Клімава — у сярэднім па банку 115,5 працэнта гадавых, банк «Залаты талер» — на тым жа ўзроўні, «Інтэкс» — 103,76 працэнта, «Белкаапбанк» — 103,58 працэнта, а «рэкорд» паставіў «Магнатбанк» — 155,68 працэнта ў сярэднім па банку.

Калі разглядаць кошт крэдытаў у залежнасці ад тэрмінаў, на якія яны выдаюцца, самымі таннымі ў снежні былі крэдыты на працяглы тэрмін — ад года і вышэй. Даражэйшымі — на тэрмін 1—3 месяцы (86,84 працэнта) у цэлым па банкаўскай сістэме.

Што тычыцца валютных крэдытаў, яны былі значна таннейшымі за рублёвыя — у цэлым па банкаўскай сістэме сярэдняя працэнтная стаўка склала 18,65 працэнта.

**Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.**

## РЫНАК ДКА «ПАДАЎЖАЕЦЦА»

**16 студзеня ў Нацыянальным банку прайшоў аўкцыён па першапачатковаму размяшчэнню ДКА 25-й эмісіі, тэрмін абарачэння якіх складзе 93 дні.**

У аўкцыёне прынялі ўдзел 10 дылераў, якія купілі аблігацыі на суму 170,1 млрд. руб. пры запланаваным аб'ёме эмісіі 200 млрд. руб. Сярэдняўзважаная цана склала 85,19 працэнта ад наміналу. Даходнасць па ёй будзе 68,23 працэнта гадавых.

Як адзначаюць спецыялісты, нягледзячы на ўзнікшую з 23-га выпуску тэндэнцыю да паніжэння даходнасці гэтага грашовага інструмента, цікавасць інвестараў да ДКА не змяншаецца. Аб гэтым можа сведчыць попыт на апошнім аўкцыёне, які па наміналу склаў 196 працэнтаў ад аб'ёму эмісіі. А правядзенне 3-га запар аўкцыёну з тэрмінам абарачэння 3 месяцы, на думку экспертаў, дазваляе зрабіць выснову аб тым, што Мінфін прыступіў да рэканструкцыі рынку ДКА ў бок яго «падаўжэння».

Акрамя таго, па 26 студзеня Нацбанк Беларусі праводзіць куплю ДКА 20-га, 22-га, 23-га, 24-га і 25-га выпускаў у банкаў, якія з'яўляюцца першаснымі інвестарамі ДКА.

**Дзмітрый ЖУК.**

## НЕ ЎСЕ «ПУСЦІЛІ Ў СПРАВУ» ЧЭКІ

**Амаль дзве трэці грамадзян Беларусі, якія маюць права на атрыманне іменных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» (ІПЧ), звярнуліся, паводле даных на 15 студзеня, у спецыяльныя камісіі з заявамі аб іх налічэнні.**

Такую інфармацыю карэспандэнту БЕЛТА паведаміла начальнік упраўлення чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці Зінаіда Шаўчэнка. І калі ў апошнія дні мінулага года абзавесціся чэкамі спяшаліся ў Гомельскай вобласці, то за першыя два тыдні 1996-га найбольшую актыўнасць праявілі жыхары Гродзеншчыны. Па-ранейшаму самымі інертнымі аказаліся мінчане. Аформіць ІПЧ у беларускай сталіцы вырашылі пакуль толькі 53,8 працэнта грамадзян. У сярэднім на аднаго жыхара рэспублікі налічаны 83 чэкі.

Што датычыць выкарыстання ІПЧ, то іх «пусцілі ў справу» толькі 32,4 працэнта ад колькасці тых, хто іх атрымаў. Пры гэтым чэкаў было больш за ўсё прададзена юрыдычным і фізічным асобам — 41 працэнт. Астатнія перааформлены або спісаны ў лік платы за прыватызуемую маёмасць і на акцыі спецфондаў.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

# «Я ВЫДАТНА РАЗУМЕЮ, ЯКІ ЦЯЖАР АДКАЗНАСЦІ БЯРУ НА СЯБЕ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Прыняць канчатковае рашэнне мне было даволі складана. Я выдатна разумеў і разумею, які цяжар адказнасці бяру на сябе. Разам з тым я адчуваў, што не маю маральнага права ні перад выбаршчыкамі, ні перад калегамі-парламентарыямі адмаўляцца ад гэтай прапановы. Бо, натуральна, займаючы пасаду старшыні парламенцкай Камісіі па нацыянальнай бяспецы і барацьбе са злачыннасцю, я мог у поўнай меры рэалізаваць сваю передвыбарную праграму. Пачуццё доўгу ў рэшце рэшт перамагло — я вырашыў перайсці на працу ў Вярхоўны Савет. А працы тут — непачаты край. Беларусь фактычна захліствае хваля злачыннасці. У мінулым годзе зарэгістравана рэкордная для краіны колькасць злачынстваў — 131 тысяча. Гэта на 9,6 працэнта больш, чым у 1994 годзе. За суткі ў дзяржаве ўчыняецца 361 злачынства. Людзі жывуць пад пастаянным страхам, баяцца выйсці вечарам на вуліцу. Праваахоўныя органы, на жаль, пакуль не здолелі забяспечыць элементарную ахову грамадскага правапарадку.

А пра рост карупцыі і арганізаванай злачыннасці апошнім часам гавораць так, нібыта гэта павінна быць неад'емнай часткай нашага жыцця. Звыкліся. Хіба ж можна так жыць далей. Трэба неадкладна прымаць самыя жорсткія меры па барацьбе са злачыннасцю. Прычым, найбольш працы тут якраз у заканадаўчай улады. Па свайму міліцэйскаму вопыту ведаю, наколькі недасканалая наша заканадаўчая база ў сферы барацьбы са злачыннасцю.

**— З якім настроем пакідаеце антыкарупцыйны камітэт? Ці ўдалося вам за такі кароткі тэрмін працы ў гэтым падраздзяленні рэалізаваць антыкарупцыйныя планы?**

— Безумоўна, мне зараз крыху сумна. Камітэт па барацьбе з карупцыяй узнік толькі паўтара года таму назад. Фарміравалі мы яго з цяперашнім намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Юрыем Георгіевічам Малумавым. Можа, гэта і не зусім аб'ектыўна, але я лічу, што нам удалося стварыць працаздольную і даволі эфектыўную структуру. Я вельмі ганаруся гэтым падраздзяленнем. Магчыма, у многім дзякуючы нашым намаганням у Адміністрацыі Прэзідэнта зараз пануе дзелавы і добразычлівы настрой. Мы закрылі шлях у структуры выканаўчай улады многім нядобрасумленным і нячыстым на руку людзям. І ўсё гэта ўдалося зрабіць невялікаму калектыву (13 чалавек) Камітэта па барацьбе з карупцыяй.

Увогуле, самым вялікім сваім дасягненнем за час працы на пасадзе кіраўніка антыкарупцыйнага камітэта я лічу тое, што мне ўдалося сабраць цудоўны калектыў. Супрацоўнікі камітэта — не толькі высакакласныя прафесіяналы, але і самаадданыя, добрыя, працавітыя людзі. Мне вельмі шкада з імі развітвацца.

А наконт рэалізацыі антыкарупцыйных планаў... Ведаеце, нейкіх там задач-максімум у мяне не было. Была звычайная, штодзённая, карпатлівая праца.

Сёе-тое засталося незавершаным. Але я ўпэўнены, што мой пераемнік давядзе гэтыя справы да лагічнага канца. Зрабіць гэта няцяжка. Камітэт па барацьбе з карупцыяй — своеасаблівы добра адладжаны механізм, які будзе працаваць незалежна ад таго, хто ім кіруе. Вядома, калі не будзе спробы зламаць гэты механізм.

**— Чым абумоўлена передача антыкарупцыйнага камітэта, які раней знаходзіўся ў структуры ўпраўлення кадравай палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта, у апарат Савета бяспекі? Ці паўплывала гэта на ваша рашэнне аб пераходзе на пастаянную працу ў парламент?**

— Пачну з адказу на апошняе пытанне. Перападпарадкаванне камітэта дзяржсакратару Савета бяспекі ніякім чынам не звязана з маім пераходам на пастаянную працу ў парламент. Аб прычынах змены месца работы я ўжо гаварыў. Хачу дадаць, што, калі б мяне не абралі старшынёй парламенцкай камісіі, я застаўся б працаваць у Камітэце па барацьбе з карупцыяй. Праўда, на маю думку, камітэт павінен знаходзіцца ў структуры ўпраўлення кадравай палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта. Гэта дазволіла б яму больш эфектыўна працаваць.

Вось толькі адзін, самы «свежы» прыклад. Днямі мне, яшчэ як старшыні Камітэта па барацьбе з карупцыяй, прынеслі для ўзгаднення дакументы на прысваенне аднаму чалавеку (не буду называць яго прозвішча і пасаду) ганаровага звання «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі». Праверылі мы гэтага работніка і выявілі, што ніякіх там асаблівых заслуг перад Радзімай у яго няма. Гаспадарка, якой ён кіруе, нічым адметным не вылучаецца, паказчыкі сярэднія. За што ж яго ўзнагароджваць? Я напісаў адмоўную рэзалюцыю, і праблему ўдалося вырашыць на ўзроўні ўпраўлення кадравай палітыкі. Аналагічным чынам мы «адсейвалі» прэтэндэнтаў з «сумніўным мінулым» на ключавыя пасады ў структуры «вертыкалі». Адзначу, што нам удавалася гэта рабіць без асаблівай мітусні і бюракратычных перашкод толькі таму, што мы знаходзіліся ў структуры ўпраўлення кадравай палітыкі, якое і займалася пытаннямі прызначэння на пасады ў сістэме выканаўчай улады. Цяпер жа, на маю думку, ускладніцца ўзаемадзеянне паміж Камітэтам па барацьбе з карупцыяй і ўпраўленнем кадравай палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта.

**— Хто будзе вашым пераемнікам на пасадзе старшыні Камітэта па барацьбе з карупцыяй?**

— Пакуль не ведаю. Са мной, прынамсі, наконт гэтай кандыдатуры ніхто не раіўся. Мне хацелася б, каб чалавек, які ўзначаліць антыкарупцыйны камітэт, не разбурыў адладжаны працоўны механізм гэтага падраздзялення, не парушыў наладжаныя цесныя сувязі з праваахоўнымі і кантралюючымі органамі.

**— У сваім праграмным выступленні перад дэпутатамі вы сказалі, што неабходна як мага хутчэй прыняць закон аб Савеце бяспекі, які б дакладна рэгламентаваў яго дзейнасць. Вы лічыце, што Савет бяспекі выходзіць за межы сваёй кампетэнцыі?**

— Не. Савет бяспекі — орган, прадугледжаны Канстытуцыяй, і працуе ў строгай адпаведнасці з ёй. Але паколькі дзейнасць Савета бяспекі і яго апарату звязана з даволі спецыфічнымі структурамі — МУС, КДБ, Міністэрства абароны, то неабходна дакладна вызначыць прававое поле, у межах якога і павінен працаваць СБ. Гэта дазволіць пазбегнуць якіх бы там ні было сутыкненняў паміж названымі ведамствамі, «раскамплексуе» кіраўнікоў сілавых і праваахоўных ведамстваў. Я лічу, што Савет бяспекі і яго апарат павінны выконваць ролю каардынатара дзеянняў сілавых структур і не павінны браць пад поўны кантроль гэтыя ведамствы.

**— А як вы лічыце, узначальваемая вамі камісія павінна кантраляваць сітуацыю ў «падведамных» сілавых і праваахоўных структурах, ці яе роля будзе зведзена толькі да распрацоўшчыка законапраектаў?**

— Бясспрэчна, першачарговай задачай камісіі з'яўляецца заканатворчая дзейнасць. Прычым, нам неабходна распрацаваць і прыняць цэлы пакет законаў, а не разрозненыя, бессістэмныя заканадаўчыя акты. Але прыняць закон мала. Задачу камісій бачу яшчэ ў тым, каб наладзіць механізм іх рэалізацыі і кантролю. Законы павінны працаваць, інакш якая з іх карысць. Менавіта праз сістэму кантролю за выкананнем законаў камісія, я лічу, павінна ўздзейнічаць на сітуацыю ў сілавых структурах і праваахоўных ведамствах. Безумоўна, мы не можам і не павінны заставацца ў баку і ад вырашэння праблем МУС, арміі, КДБ. Будзем вырашаць іх у межах сваёй кампетэнцыі, не адбіраючы «хлеб» у выканаўчай улады. Наогул, я буду імкнуцца захаваць ранейшыя добрыя дзелавыя адносіны з кіраўніцтвам сілавых структур і з Саветам бяспекі. Нам дзяліць няма чаго. У нас адны і тыя ж мэты — адолець злачыннасць, умацаваць абараназдольнасць Бацькаўшчыны.

**— У бліжэйшы час Вярхоўнаму Савету давядзецца разгледзець шэраг кадравых пытанняў. Сярод іх прызначэнне Генеральнага пракурора, зацвярджэнне сілавых міністраў. На вашу думку, ці ўсе кіраўнікі праваахоўных і сілавых ведамстваў, прызначаныя Прэзідэнтам, дастойны займаць такія адказныя пасады?**

— Пакуль што я не гатовы даць адказ па ўсіх сілавых міністрах. Мне неабходна прааналізаваць не толькі прафесіянальныя якасці гэтых людзей, але і ўлічыць маральныя аспекты іх дзейнасці.

Зараз у мяне няма ніякіх сумненняў, што Васіль Сцяпанавіч Капітан дастойны пасады Генеральнага пракурора. Гэта выдатны прафесіянал, пасля таго як ён узначаліў Пракуратуру, там адбыліся вялікія пазітыўныя змены. Да таго ж Васіль Сцяпанавіч сумленны чалавек. Аналагічную характарыстыку я магу даць і міністру абароны генералу Мальцаву.

Што датычыць новага міністра ўнутраных спраў Валянціна Агальца і старшыні КДБ Уладзіміра Мацкевіча, то іх службовыя і асабістыя якасці я пакуль ведаю не вельмі добра, каб рабіць якія-небудзь высновы.

**— А хіба Камітэт па барацьбе з карупцыяй не праводзіў праверкі прэтэндэнтаў на пасаду кіраўнікоў МУС і КДБ?**

— Не. Падборам і праверкай гэтых кандыдатур займаўся апарат Савета бяспекі.

**— Тым не менш, днямі з'явілася публікацыя ў «Известиях» аб кватэрных махінацыях міністра ўнутраных спраў Валянціна Агальца. Камісія па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю зацікавіцца гэтай справай?**

— Вядома, мы дэталёва вывучым гэтую інфармацыю, апублікаваную ў «Известиях». Закон не дазволена ігнараваць нікому.

**— Як вы лічыце, ці магчыма вяртанне на пасаду кіраўніка МУС Юрыя Захаранкі?**

— Юрый Захаранка быў звольнены з пасады міністра Прэзідэнтам. І хоць я афіцыйна не маю права каменціраваць прэзідэнцкія ўказы, асабістае маё меркаванне наступнае: указ Прэзідэнта справядлівы.

**— Зноў жа вернемся да вашага выступлення. У ім вы многа ўвагі ўдзялілі праблеме барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Ці лічыце вы мэтазгодным стварыць у структуры камісіі спецыяльнае падраздзяленне, якое будзе займацца вывучэннем гэтых праблем?**

— Так, гэтыя праблемы патрабуюць сур'ёзнага вывучэння і неадкладнага вырашэння. Забойствамі, замаскіраванымі пад невядомае знікненне, выбухамі, пажарамі, зборамі даніны з камерцыйных структур і іншымі крымінальнымі дзеяннямі «аўтарытэты» злачыннага свету дэманструюць сваю магутнасць.

Ва ўмовах існуючага заканадаўчага вакууму з кожным днём праваахоўным органам усё цяжэй становіцца выяўляць факты карупцыі. Таму адным з першых дакументаў, які мы вынесем на разгляд Вярхоўнага Савета, будзе праект закона аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Гэты законапраект, дарэчы, быў падрыхтаваны яшчэ нашымі папярэднікамі і прыняты былым парламентам у першым чытанні. Нам застанецца толькі ўнесці невялікія карэктывы з улікам існуючых рэалій.

**— Нядаўна ў «Белорусской деловой газете» былі апублікаваны матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю прадпрыемства «Торгэкспо», якое атрымала па распараджэнню Прэзідэнта шэраг падатковых ільгот. Ці будзе ваша камісія дэталёва разбірацца ў гэтай гісторыі?**

— Я лічу, што парламенцкая камісія не павінна разглядаць такі прыватны выпадак. Тут павінна расставіць усе кропкі над «і» пракуратура. Пры неабходнасці мы, вядома, запатрабуем вынікі пракурорскай праверкі. Пакуль такой неабходнасці я не бачу. У нас ёсць больш важныя і злабадзённыя пытанні. Трэба працаваць над законапраектамі.

**— Апроч барацьбы са злачыннасцю камісіі прыйдзецца шмат увагі ўдзяляць пытанням абароны. Якой вы бачыце ролю камісіі ў вырашэнні вайсковых праблем?**

— Відавочна, што войска ў нас занадта вялікае. Патрэбна скарачэнне. Але рабіць гэта неабходна прадумана, каб не разваліць армію наогул. Мяркую, што нам трэба стварыць прафесіянальнае войска. Толькі такім шляхам мы з мінімальнымі бюджэтнымі затратамі здолеем павысіць абараназдольнасць краіны. Заканадаўчая база для вырашэння вайсковых праблем у асноўным падрыхтавана. Найбольш намаганняў прыйдзецца сканцэнтраваць на распрацоўцы механізма ажыццяўлення гэтых законаў.

**— Ці павінна Беларусь захоўваць статус нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы?**

— Наконт нейтральнасці ў мяне пазіцыя адназначная. Мы не павінны далучацца да якіх-небудзь ваенных саюзаў ці блокаў. Гэтага патрабуе Канстытуцыя, і парушаць яе ніхто не мае права.

А вось з вывадам ядзернай зброі, я лічу, мы паспяшаліся. Як і кожны тавар, ядзерныя ракеты маюць сваю цану. І калі сусветная супольнасць настойвала на вывадзе гэтага віду зброі з Беларусі, неабходна было запатрабаваць кампенсацыю. Мы ж не настолькі багатыя, каб выкідваць на вецер мільёны долараў. Нядаўна на сесіі выступаў былы міністр замежных спраў Пётр Краўчанка і паведаміў, што па ўмовах дагавора аб вывадзе ядзернай зброі з Беларусі ў Расію, наша ўсходняя суседка павінна выплаціць кампенсацыю прыкладна ў 120 мільёнаў долараў. Расія гэтыя ўмовы не выканала і ў нас ёсць поўнае права пакінуць тыя ядзерныя ракеты, якія яшчэ не выведзены з Беларусі.

**— Наколькі я зразумеў вас, як старшыня парламенцкай камісіі вы будзеце ўздымаць пытанне аб спыненні вываду ядзернай зброі з Беларусі?**

— Такую пазіцыю выказаў нядаўна Прэзідэнт, і я цалкам падтрымліваю яго. Тут варта кіравацца найперш эканамічнымі інтарэсамі і патрабаваць выплаты кампенсацыі.

**— А вы не задумваліся аб палітычных наступствах? Гэта ж будзе міжнародны скандал.**

— Чаму ж міжнародная супольнасць заплюшчвае вочы на тое, што Расія не выплаціла нам кампенсацыі? Хіба гэта таксама не скандал?

**— Мяркуючы па нашай размове, нават перайшоўшы на пастаянную працу ў парламент, вы засталіся прыхільнікам Прэзідэнта. І тым не менш, ваша новая пасада патрабуе ад вас пэўных крокаў, якія супярэчаць пазіцыі выканаўчай улады. Напрыклад, ці будзеце вы дабівацца аднаўлення ваеннаслужачым і супрацоўнікам праваахоўных органаў ільгот, якія былі адменены прэзідэнцкімі ўказамі восенню мінулага года?**

— Я лічу, што льготы гэтым катэгорыям людзей павінны быць вернуты. Наколькі я ведаю, частка гэтых ільгот ужо адноўлена самім Прэзідэнтам. Заўважу, што нам усім неабходна ўлічваць рэальную эканамічную сітуацыю.

Так што супярэчнасцей з Аляксандрам Рыгоравічам па гэтай праблеме ў мяне фактычна няма.

**— Ваша стаўленне да таго, што, будучы старшынёй адной з ключавых парламенцкіх камісій, вы не з'яўляецеся членам Прэзідыума?**

— Мяне гэта не засмучае. Такі парадак фарміравання Прэзідыума вызначыў Вярхоўнага Савет. Час пакажа, наколькі гэта было мэтазгодным. У любым выпадку ніколі не позна пры неабходнасці ўнесці карэктывы.

**— Каго з дэпутатаў вы хацелі б бачыць на пасадзе старшынь падпарадкаваных вам падкамісій па абароне і па барацьбе са злачыннасцю?**

— Гэтыя пытанні будуць вырашаць усе члены камісіі шляхам галасавання. Не хацелася б нейкім чынам уплываць на яго вынікі, таму ўстрымаюся ад выказвання свайго меркавання. Скажу толькі, што жадаючых працаваць у Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю даволі шмат. На пасаду старшынь падкамісій прэтэндэнтаў таксама нямала.

**— Ваш канкурэнт на выбарах старшыні камісіі, экс-старшыня КДБ Уладзімір Ягораў уваходзіць у лік гэтых прэтэндэнтаў?**

— Пакуль што Уладзімір Дзям'янавіч не выказаў такога жадання.

**— Як вы ацэньваеце працу ў гэтай камісіі сваіх папярэднікаў — дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання?**

— Нашы калегі з былога парламента выканалі вялікі аб'ём работы. Прынялі многа законаў, якія рэгламентуюць дзейнасць праваахоўных і сілавых структур. У большасці сваёй гэта даволі якасныя законы. Праўда, жыццё не стаіць на месцы, і ўжо нам давядзецца ўносіць пэўныя змены ў дзеючыя законы і, вядома ж, прымаць новыя. Спадзяюся, што з гэтымі задачамі наша камісія паспяхова справіцца.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# ВЫНІКІ ПАСЯДЖЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА САВЕТА ПА ПРАЦОЎНЫХ І САЦЫЯЛЬНЫХ ПЫТАННЯХ

**19 студзеня ў Доме ўрада адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях (у яго састаў уваходзяць прадстаўнікі ўрада, рэспубліканскіх аб'яднанняў прафсаюзаў і наймальнікаў), на якім разглядаліся два пытанні: неадкладныя меры па стабілізацыі фінансава-эканамічнага становішча ў прамысловасці і ўмовы аплаты працы кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, з якімі заключаны кантракты.**

Як паведамілі БелаПАН у Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, падчас пасяджэння была прынята прапанова Міністэрства прамысловасці аб неабходнасці адтэрміноўкі ў пакрыцці запазычанасці па плацяжах у бюджэт і дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды (акрамя сацыяльных), якая ўтварылася на 1 студзеня 1996 года. Падтрымана таксама прапанова Мінпрома аб прадастаўленні прадпрыемствам магчымасці праводзіць рэгулярную даацэнку таварна-матэрыяльных каштоўнасцей да цаны апошняга набыцця і накіроўваць усю суму даацэнкі на папаўненне абаротных сродкаў. Удзельнікі пасяджэння прыйшлі да згоды ў неабходнасці стымулявання камерцыйных банкаў, якія ажыццяўляюць доўгатэрміновае і сезоннае крэдытаванне прадпрыемстваў.

Міністэрствам прамысловасці, эканомікі, працы і фінансаў з удзелам аб'яднанняў прафсаюзаў і наймальнікаў даручана ў двухтыднёвы тэрмін падрыхтаваць і ўнесці на разгляд Кабінета Міністраў і Вярхоўнага Савета рэспублікі праекты неабходных дакументаў, якія ўключаюць у сябе прапановы, прынятыя на пасяджэнні Нацыянальнага савета.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

# ГРАМАДСТВУ ПАТРЭБНЫ АСОБЫ

*Пётр КУХАРЧЫК, першы прарэктар Белдзяржуніверсітэта, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі*



**У СІСТЭМЕ АДУКАЦЫІ ЛЮБОГА ГРАМАДСТВА** цэнтральнае месца займалі і займаюць універсітэты. Яны заўсёды павінны былі адлавядаць патрабаванням універсальнасці і пэўным этычным нормам. У мінулым яны давалі універсальную вышэйшую адукацыю, выпускнікі універсітэтаў былі ўсебакова адукаванымі інтэлігентнымі асобамі.

Гісторыя універсітэтаў і універсітэцкай адукацыі пачынаецца ў XII стагоддзі — з эпохі заходнееўрапейскага сярэднявечча. Само паняцце «універсітэт» паходзіць ад лацінскага universitas — сукупнасць, агульнасць. Нагадаю, што сярэдневяковы еўрапейскі універсітэт складаўся з наступных факультэтаў:

— падрыхтоўчага (артыстычнага ці мастацтваў);

— трох вышэйшых (права, медыцыны, багаслоўскага).

На першым выкладалі сем дысцыплін — граматыку, рыторыку, дыялектыку, пасля засваення якіх прысуджалася ступень бакалаўра мастацтваў, а пасля вывучэння арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі і музыкі прысуджалася ступень магістра мастацтваў. Пасля заканчэння аднаго з трох вышэйшых факультэтаў прысуджалася ступень магістра ці доктара навук па профілю універсітэта. Так што наша шматузроўневая сістэма — гэта ўкараненне таго, што ў Еўропе было ужо ў XII стагоддзі.

Час навучання чалавека ва універсітэце быў перш за ўсё перыядам яго далучэння да культуры. Так што праблема падрыхтоўкі «кадраў спецыялістаў» тады не была дамінуючай. Дарэчы, у XIX стагоддзі універсітэты ўсё яшчэ не «давалі» спецыяльнасці. У вышэйшай адукацыі пераважаў культурны аспект. Безумоўна, і ў слова «культура» ўкладвалася не тое яе «завужанае» разуменне, якое прадстаўлена цяпер сферай дзейнасці міністэрства культуры. Культура разумелася ў шырокім сэнсе, блізкім да такога, пры якім яна ўяўляла сабой асяроддзе існавання чалавецтва, прыроду, прапушчаную праз чалавечыя сэрца і рукі.

Аднак развіццё універсітэтаў у розны час і ў розных краінах свету ішло часцей за ўсё рознымі шляхамі. Універсітэцкая аўтаномія насіла характар ад поўнай свабоды да вельмі строгага царкоўнага ці адміністрацыйна-дзяржаўнага кантролю.

Сёння ў Беларусі працуюць шэсць дзяржаўных універсітэтаў, якія мы адносім да класічных універсітэтаў, і 9 профільных дзяржаўных універсітэтаў. Летась праводзіўся прыём студэнтаў у трох недзяржаўных універсітэтах.

Праблема універсітэцкай адукацыі існуе з часоў іх зараджэння і ў розныя эпохі вырашалася па-свойму. Пры гэтым можна весці размову як аб змесце і мэтах універсітэцкай адукацыі, так і канкрэтных прыметах класічнага універсітэта. Апошнія, безумоўна, носяць часовы і часткова суб'ектыўна-рэгіянальны характар. Напрыклад, у рамках Еўразійскай асацыяцыі універсітэтаў сфармуляваны пяць больш-менш канкрэтных крытэрыяў універсітэта наогул — як вышэйшай навучальнай установы, а іменна:

1. Наяўнасць пэўнай колькасці дактароў навук на 100 студэнтаў дзённай формы навучання.

2. Наяўнасць шырокага спектра спецыяльнасцей, па якіх вядзецца падрыхтоўка і перападрыхтоўка кадраў.

3. Наяўнасць саветаў па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый.

4. Пэўная забяспечанасць навучальнага працэсу і навуковых даследаванняў бібліятэчным фондам.

5. Пэўны ўзровень фінансавання навуковых даследаванняў.

Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь загадам № 26 ад 23.01.95 г. зацверджаны крытэрыі вызначэння статусу ВНУ універсітэцкага тыпу з 25 пунктаў. Першыя 7 абавязковыя, а з астатніх 18 крытэрыяў ВНУ прадастаўлена права задавальняць па любых 15. Да абавязковых аднесены наступныя:

— міжнароднае прызнанне ВНУ як навукова-метадычнага цэнтра адпаведнага профілю;

— наяўнасць навукова-педагагічных школ;

— наяўнасць аспірантуры і спецыялізаваных саветаў;

— функцыянаванне сістэмы НДРС і наяўнасць прызёраў міжнародных ці рэспубліканскіх студэнцкіх конкурсаў;

— аб'ём фундаментальных НДР павінен складаць не менш як 30 працэнтаў ад агульнага аб'ёму навуковых даследаванняў;

— забеспячэнне падрыхтоўкі бакалаўраў і магістраў;

— не менш як 3500 студэнтаў усіх формаў навучання.

На жаль, тут некаторыя важнейшыя крытэрыі аднесены да выбіральных, напрыклад, укамплектаванасць выкладчыцкага корпуса асобамі, якія маюць вучоныя ступені ці званні. Таму не менш, а магчыма і больш важна сфармуляваць мэты і задачы класічнай універсітэцкай адукацыі, а таксама вызначыць яе змястоўны бок.

Некалькі слоў пра Беларускі дзяржаўны універсітэт, які ў кастрычніку гэтага года адзначыць сваё 75-годдзе.

Цяпер ва універсітэце 13 факультэтаў. Студэнты навучаюцца па 43 спецыяльнасцях і кваліфікацыях і 145 спецыялізацыях. 1400 выкладчыкаў, сярод якіх каля 200 прафесараў і 700 дацэнтаў, працуюць на 120 кафедрах. На трох формах навучання (дзённай, вячэрняй і завочнай) займаюцца больш як 13.000 студэнтаў. У аспірантуры праходзяць навучанне каля 400 аспірантаў і звыш 30 дактароў. Выпускнікі БДУ працуюць у многіх краінах Еўропы, Афрыкі, Азіі і Амерыкі. Цяпер ва універсітэце навучаецца больш як 400 студэнтаў з розных краін свету.

Сёння Беларускі дзяржаўны універсітэт з'яўляецца буйнейшым навучальным і навуковым цэнтрам краіны. Многія праблемы, над якімі працуюць вучоныя, уваходзяць у агульнадзяржаўныя планы навуковых даследаванняў. Пры універсітэце працуюць тры буйныя навукова-даследчыя інстытуты, ФПК выкладчыкаў ВНУ, ліцэй.

Калектыў Белдзяржуніверсітэта ганарыцца тым, што пад Статутам ААН стаяць подпісы двух яго прафесараў — В. Перцава і Ф. Шмыгава. Універсітэт стаў адным з першых членаў Міжнароднай асацыяцыі універсітэтаў (МАУ).

Па прагнозах, ужо да сярэдзіны першага стагоддзя новага тысячагоддзя, г. зн. да 2050 года, колькасць людзей, занятых непасрэдна ў вытворчай сферы, значна знізіцца — прыкладна да 10 працэнтаў ад усяго насельніцтва. Гэта дасць магчымасць большай частцы людзей прысвяціць сябе сферы навукі, культуры, адукацыі, мастацтва і іншай дзейнасці, якая патрабуе шырокай вышэйшай адукацыі, што забяспечваецца праграмамі класічнай універсітэцкай адукацыі.

Паняцце класічнага універсітэта можна сфармуляваць і наступным чынам: класічны універсітэт — гэта вышэйшая навучальная ўстанова, якая рыхтуе спецыялістаў з глыбокай фундаментальнай і цэласнай адукацыяй, здольных рэалізоўваць патрэбнасці чалавека ў змене сфер дзейнасці на працягу ўсяго яго жыцця.

Асноўная задача такой ВНУ — падрыхтоўка спецыялістаў: шырока адукаваных, інтэлігентных, гарманічна развітых.

Такім чынам, класічны універсітэт павінен даваць шырокую фундаментальную адукацыю, а вузкая спецыялізацыя, якая сёння таксама неабходна, павінна быць яго фрагментам. Вопыт вядучых ВНУ свету паказвае, што шырыня ведаў плюс культура мыслення дазваляюць хутка асвоіць пры неабходнасці практычна любую іншую спецыяльнасць.

Ужо сёння многія з развітых краін (ЗША, Японія, Францыя, Германія) імкнуцца надаць вышэйшай адукацыі агульнадаступны характар. Ставіцца задача, каб 75—80 працэнтаў моладзі ва ўзросце 17—25 гадоў маглі стаць студэнтамі ВНУ. У той жа час адмова моладзі ад атрымання вышэйшай адукацыі можа знішчыць інтэлектуальны патэнцыял краіны.

Аднак у новы час у сувязі з ускладненнем і дыферэнцыяцыяй навук і патрэбнасцю грамадства ў вузкіх спецыялістах усё большы ухіл рабіўся ў бок спецыялізацыі. Паступова агульная вышэйшая адукацыя пераключылася на спецыяльную. Адпаведным чынам былі перагледжаны вучэбныя планы, з якіх неапраўдана былі выключаны многія агульнаадукацыйныя дысцыпліны, накіраваныя на развіццё агульнай культуры выпускніка.

Сёння ў прынцыпе нельга абысціся без вышэйшай спецыяльнай адукацыі, паколькі народнай гаспадарцы патрабуецца вялікая колькасць высокакваліфікаваных спецыялістаў для работы на канкрэтных пасадах. Аднак нельга дапускаць, каб інтэлектуальны ўзровень такіх спецыялістаў апускаўся ніжэй за дапушчальны мінімум.

У цяперашніх умовах шырыня адукацыі павінна дасягацца ў першую чаргу за кошт аб'яднання гуманітарных і прыродазнаўчанавуковых ведаў. Настаў час, калі чалавецтва павінна ліквідаваць істотныя адрозненні паміж дзвюма «цывілізацыямі»: гуманітарнай і прыродазнаўчанавукова-інжынернай. Неабходна, каб на падставе ведаў аб навакольным свеце грамадства ўсвядоміла, што ўсе веды, прыродазнаўчанавуковыя і тэхнічныя, неабходны для вырашэння надзённых праблем чалавека, у тым ліку і гуманітарных.

Але аб'яднанне абедзвюх культур, прыродазнаўчанавуковай і гуманітарнай, ці нават знаходжанне агульнай інфармацыйнай прасторы — гэта не простая праблема. Мы яшчэ павінны навучыцца навучаць гуманітарыяў прыродазнаўству, а прыродазнаўцаў — асновам гуманітарнага мыслення. Значэнне гэтага яшчэ не ўсвядомлена і не прымаецца намі ўсур'ёз. І калі з гуманітарнай адукацыяй прыродазнаўцаў справы, хоць са скрыпам, але рухаюцца наперад, то з прыродазнаўчай адукацыяй гуманітарыяў справы значна горшыя. Праўда, у Белдзяржуніверсітэце ўдалося ў вучэбныя планы гуманітарных спецыяльнасцей укараніць курс інфарматыкі. А між тым, жыццё і практыка даказваюць, што нішто так не развівае культуру мыслення, як матэматыка, якая дазваляе адносна хутка асвоіць любую спецыяльнасць.

Сінтэз прыродазнаўчанавуковай і гуманітарнай культур, прыродазнаўчанавуковай і гуманітарнай адукацыі — абсалютная неабходнасць, паколькі ўсё далейшае развіццё навукі і тэхнікі акажацца ўсяго толькі матэрыяльнай базай для вырашэння гуманітарных праблем. Інакш кажучы, універсітэтам трэба будзе навучыць будучых спецыялістаў, незалежна ад іх профілю, глядзець на сваю спецыяльнасць з агульначалавечага пункту гледжання.

Сістэма вышэйшай адукацыі мае сёння патрэбу ў глыбокім змяненні не толькі зместу, але і тэхналогіі навучання, рашучай адмове ад устарэлых тэхналогій, якія жорстка дэтэрмінуюць дзейнасць студэнтаў, скоўваюць акадэмічную свабоду, без якой не можа быць творчасці. Сёння ў агульнаадукацыйным працэсе дамінуюць падручнік і аўдыторныя заняткі, на якія прыпадае 2/3 вучэбнага часу. Вучэбныя праграмы разлічаны на 30—36 гадзін аўдыторнай работы. Гэта вядзе да росту вучэбнай нагрузкі выкладчыкаў, скарачэння часу на навуковыя даследаванні, запаволення распрацоўкі новых вучэбных курсаў. Часта навучальны працэс у ВНУ не вельмі адрозніваецца ад такога ў сярэдняй школе.

На пытанне «Як арганізавана вамі асабіста ваша вучэбная работа?» 75 працэнтаў апытаных студэнтаў адказалі, што займаюцца ў межах абавязковай праграмы, г. зн. вывучаюць канспекты лекцый, 52 працэнты рэспандэнтаў дзяржаўных ВНУ адказалі, што яны вучацца толькі для атрымання дыплома.

Такая форма навучання аналагічная рэпетытарскаму нашпігоўванню і ў прынцыпе дае блізкі станоўчы эфект. Але ў гэтым выпадку студэнт не будзе прывучаны і здольны ў працэсе практычнай работы самастойна папаўняць свае веды.

Таму галоўны акцэнт ва універсітэтах павінен рабіцца на самастойную работу студэнтаў, на свабодны інфармацыйны пошук, адкрыты доступ да інфармацыйных крыніц. Задача выкладчыка — накіроўваць інфармацыйны пошук студэнта, абмяркоўваць з ім вынікі самастойна здабытай і засвоенай інфармацыі.

Узровень падрыхтоўкі выпускнікоў універсітэта ў першую чаргу залежыць ад настаўнікаў, г. зн. ад прафесарска-выкладчыцкага саставу. Прафесары універсітэта павінны быць не толькі прызнанымі спецыялістамі ў сваёй галіне, не толькі класнымі выкладчыкамі. Яны павінны быць людзьмі з універсальна шырокімі поглядамі, сапраўднымі інтэлігентамі. Прафесары павінны адрадзіць ва універсітэце традыцыі падтрымкі выключна прэстыжу ісціны, свабоднага даследавання, культурна-творчых і этычных нормаў. Альма-матэр павінна дапамагчы маладым людзям адказаць на вядомае пытанне: «Где, укажите мне, отечества отцы, которых мы должны принять за образцы?»

Калі да прафесіянальнай падрыхтоўкі большасці выкладчыкаў сур'ёзных прэтэнзій быць не можа, то з універсальна шырокімі поглядамі, з інтэлігентнасцю справы значна горшыя. Так, па выніках сацыялагічных даследаванняў у ВНУ Расійскай Федэрацыі, сярод прычын канфліктаў паміж выкладчыкамі і студэнтамі з'яўляюцца асабістыя якасці выкладчыка (63 працэнты рэспандэнтаў). Па выніках сацыялагічнага апытання беларускіх студэнтаў, праведзенага кафедрай сацыялогіі Белдзяржуніверсітэта, на пытанне: «Ці аказвае ўплыў характар узаемаадносінаў з выкладчыкамі на цікавасць да вучобы і набываемай прафесіі?» амаль 70 працэнтаў рэспандэнтаў адказалі станоўча.

На пытанне: «Як змяніліся вашы адносіны да будучай прафесіі за час вучобы?» — кожны трэці адказаў, што практычна нічога не змянілася; і толькі кожны сёмы сказаў, што будучая прафесія стала падабацца больш. На нізкі ўзровень выкладання спецыяльных дысцыплін указалі па ВНУ Беларусі — 5,5 працэнта рэспандэнтаў, а па БДУ — 1,3 працэнта.

Зразумела, матэрыяльнае забеспячэнне выкладчыцкіх кадраў сёння, мякка кажучы, вымушае жадаць лепшага. Многія высокакваліфікаваныя выкладчыкі пакідаюць ВНУ і ідуць у іншыя арганізацыі на больш высокія аклады. Іншыя шукаюць прыработак, каб больш-менш нядрэнна існаваць, а гэта вядзе да работы ў перанапружаным рэжыме і не пакідае часу для індывідуальнай работы са студэнтамі і на навуковую работу.

Аднак нельга не прызнаць, што ў першую чаргу дзякуючы прафесарска-выкладчыцкаму саставу вышэйшая школа ва ўсіх рэспубліках былога СССР практычна не была захліснута палітычнымі страсцямі, нягледзячы на актыўнае падбухторванне рознага роду палітычных экстрэмістаў. У гэтай спакойнай калектыўнай мудрасці работнікаў вышэйшай адукацыі, у іх дастойным высокамаральным імкненні выконваць, нягледзячы на цяжкія ўмовы, свой абавязак педагога — залог пад'ёму вышэйшай адукацыі.

Універсітэцкая навука і навучальны працэс ва універсітэце павінны быць інтэграваны. Выкладчыкі, студэнцтва павінны непасрэдна ўдзельнічаць у навуковых даследаваннях. Актуальнай з'яўляецца праблема інтэграцыі навуковага патэнцыялу універсітэтаў, акадэмічных і іншых навуковых установаў для вырашэння перспектыўных навуковых задач, якія стаяць сёння.

Універсітэцкая навука, як і навучальны працэс, крайне маюць патрэбу ў фінансавай і маральнай падтрымцы, тым больш, што многія даследаванні ў галіне фундаментальных навук у прынцыпе не могуць праводзіцца на гаспадарчадагаворнай аснове, а без фінансавання з боку дзяржавы проста заглохнуць.

Тую сітуацыю, якая склалася ў апошнія тры-чатыры гады ў сувязі з масавым перайменаваннем большасці ВНУ ва універсітэты і стварэннем вялікай колькасці недзяржаўных інстытутаў, можна разглядаць як у нейкай меры парадаксальную. Ва ўмовах катастрафічнага скарачэння фінансавання з боку дзяржавы розных напрамкаў фундаментальнай навукі (ды і прыкладной) створана вялікая сетка ВНУ, якія павінны быць навукова-вучэбнымі цэнтрамі. Запаўняльнасць гэтых ВНУ кантынгентамі студэнтаў сведчыць, безумоўна, аб узмацненні тэндэнцыі да атрымання адукацыйных паслуг, хаця не выключана, што спрацоўвае і стары прынцып атрымання таго «паплаўка», які гарантуе работу.

Яшчэ раз падкрэслю: сучаснае грамадства сёння зведвае вострую патрэбу ў людзях з шырокай фундаментальнай і цэласнай адукацыяй, з ведамі, не завучанымі, а набытымі самастойна; у людзях, здольных рэалізаваць патрэбнасці ў змене сфер дзейнасці на працягу ўсяго жыцця. Інакш кажучы, грамадства мае патрэбу ў АСОБАХ. І задаволіць гэтыя патрэбы грамадства павінны класічныя універсітэты, перад якімі сёння стаяць вельмі складаныя задачы, вырашыць якія можна толькі ў маштабе ўсёй сістэмы адукацыі.

# КІРМАШ



**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 3 (22)**




| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| Запчасти М-412, ГАЗ-53, 2410, Т-25, Т-40 | | Организация | (0222) 25-00-00 |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд (8—15 дней) | от 505$ | Техно-Стар | (0172) 39-47-14 |

**Аддзел рэкламы 32-04-52, 68-28-71, 68-28-77 (факс).**

## Курсы абмену наяўных валют

**у камерцыйных банках на 22 студзеня 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11800 | 12300 | 8000 | 8400 | 2.40 | 2.60 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11600 | 12200 | 7800 | 8300 | 2.35 | 2.60 | |
| Белзнешэканомбанк | 11600 | 12200 | 7800 | 8400 | 2.25 | 2.55 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11800 | 12000 | 8000 | 8400 | 2.48 | 2.60 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11600 | 12300 | 7750 | 8550 | 2.00 | 2.50 | 37-38-26 |
| Народны банк | 11800 | 12200 | 8000 | 8350 | 2.40 | 2.55 | 238-610 |
| «Алімп» | Інфармацыя на 9.50 не атрымана | | | | | | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11900 | 12400 | 8100 | 8300 | 2.40 | 2.55 | 291-646, 067 |
| «ФФФ» | 11700 | 12400 | 8000 | 8500 | 2.40 | 2.80 | |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7834.85 | | 2.47 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4683 | | 3189.40 | | 100 бел.р. 38.00 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік
** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік
*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах

### ПЕРЕЧЕНЬ РУБРИК для строчечной рекламы

1. *Недвижимость, строительство.*
2. *Финансы.*
3. *Транспорт.*
4. *Сырье.*
5. *Для фермера и дачника.*
6. *Производственное оборудование.*
7. *Оргтехника.*
8. *Оборудование для офиса и дома.*
9. *Предметы потребления (одежда, обувь и т. д.).*
10. *Работа, услуги.*
11. *Продовольствие.*
12. *Домашние животные и растения.*
13. *Туризм и отдых.*



**КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ**

## Герберт Ньютан КЭСАН

# АКСІЁМЫ БІЗНЕСУ

Нельга лічыць такі спрыт махлярствам. Гэта не што іншае, як майстэрства, тонкасць, тэхніка. Да таго ж ніколі не трэба звяртацца да хлусні: толькі няўмелыя маюць патрэбу ў неабходнасці падманваць і лгаць. Той, хто ведае, як надаць тавару цану, і хто валодае здольнасцю пераконваць, зусім не павінен быць несумленным.

«Майстэрства прадаваць», даведзенае да дасканаласці, прыносіць карысць як кліенту, так і магазіну: яно аказвае паслугу аднаму і дазваляе працвітаць другому.

Калі вы ўмееце развіваць патрэбнасць у публікі, паніжэнне цэн для вас залішняе.

Прымусьце людзей сапраўды мець патрэбу ў новай мадэлі бяспечнай брытвы, больш або менш падобнай на цацку: вам без вагання заплацяць за яе 2 долары. Калі ж узяць пад увагу, што пры зручнасці самога ўжывання яна дае вам эканомію за кошт вашага цырульніка, то гэту цану нельга прызнаць высокай.

У Канадзе я бачыў, як прадавалі на Каляды апельсіны па паўдолара за штуку. У гэты дзень кожная сям'я мела патрэбу прынамсі ў адным апельсіне. І нават самая бедная сям'я мела патрэбу больш у апельсіне, чым у паўдолары.

Расшыраць патрэбнасці ў публіцы, ствараць яе густы і думкі — усё гэта патрабуе празмернай і самай тонкай праніклівасці.

### ШОСТАЯ АКСІЁМА

### ● Час павялічвае сабекошт

У дзікіх і нават у малакультурных краінах час не мае ніякай цаны.

Але ў краінах культурных, з развітым гандлем час з'яўляецца скарбам.

Гэта — хадзячая манета, сапраўдная форма багацця.

Час — грошы. Вось камерцыйнае выслоўе і адно з самых галоўных пажаданняў «навукі прадукцыйнасці».

У нашы дні чалавек, які не схіляецца перад часам, доўга не будзе хваліцца сваім грамадскім і матэрыяльным становішчам.

Мы вынайшлі нават гадзіннік, які адзначае пятую частку секунды. Цэлая секунда аказалася вельмі працяглай для адзінкі часу. Многае можа адбыцца ў адну пятую секунды і нават хутчэй. Поезд-экспрэс пераносіць пасажыра на адлегласць 5 метраў у адну пятую секунды... Проста неверагодна, як многа можна зрабіць на працягу цэлага дня.

Пры наведванні аўтамабільнай фабрыкі Форда (у Дэтройце) я спытаў аб прадукцыйнасці папярэдняга дня. Аказваецца, напярэдадні было выпушчана 1017 аўтамабіляў, цалкам гатовых і здадзеных для продажу. За папярэдні час бывалі дні, калі і ўказаная колькасць была пераўзыдзена.

Час сваёй хадой павялічвае сабекошт.

Такім чынам, чым менш вы ўжываеце часу на дадзеную работу, тым большая ваша выгада. Вось чаму так спяшаюцца, прывучаюцца да пунктуальнасці і так дакладна ўлічваюць секунды.

Але мала людзей, якія стаяць на чале спраў і могуць пахваліцца сваім пакланеннем перад секундамі.

Гарыман, вядомы амерыканскі чыгуначны будаўнік, выдаткаваў больш за 10 мільёнаў долараў на адно ўдасканаленне, якое дало магчымасць выйграць паўгадзіны на кожным поездзе. Зразумела, такі расход можа сябе апраўдаць толькі там, дзе рух велізарны.

Я памятаю таксама аднаго фабрыканта, здаецца, з Манрэаля, які адмовіў мне ў маёй просьбе агледзець яго фабрыку, растлумачыўшы:

«У мяне працуюць цяпер 600 жанчын, і мы завалены работай... Пры вашым наведванні фабрыкі кожная жанчына падымае галаву, паглядзіць на вас і такім чынам страціць паўхвіліны. Шэсцьсот паўхвілін складаюць страту ў 5 гадзін. Даруйце, што я вам адмаўляю, вам прыйдзецца пачакаць заканчэння работы».

Можа, гэта перабольшанне, але перабольшанне, якое рэдка сустракаецца. Між тым, у сапраўднасці яно вельмі пахвальнае. Карзінкі для папер вельмі часта напаўняюцца страчанымі дарэмна хвілінамі і гадзінамі.

Пры васьмігадзінным рабочым дні вы маеце толькі 480 хвілін, а таму страта кожных пяці хвілін змяншае вашу работу на 1 працэнт. Значыць, запас вашай работы скарачаецца да 99 працэнтаў. Калі вы страцілі 50 хвілін, запас скарачаецца да 90 працэнтаў і г. д. Хто з нас штодзённа зберагае поўнасцю ўвесь баявы запас сваёй работы?

Калі вы занялі 600 000 долараў пад 5 працэнтаў, то вам прыходзіцца кожную хвіліну плаціць працэнтаў больш чым на 20 цэнтаў... Пры памылцы канторшчыка, які разлічыў няправільна тэрмін вашага плацяжу толькі на адзін дзень, вы страціце каля 100 долараў.

Шмат бізнесменаў загінулі ў выніку таго, што забылі жорсткую непарушнасць бегу працэнтаў.

Працэнты нагадваюць чарапаху з байкі. Яна павольна рухаецца, але затое ніколі не спыняецца. Колькі хуткіх, бяспечных і жыццярадасных зайцоў абагнала ўсё-такі гэта чарапаха!

Тавары ў магазіне часта ўяўляюць сабой узяты пазыковы капітал. Я магу назваць іх замарожанымі грашамі. Тавары на складзе цягнуць за сабой працэнты, найм памяшкання і служачых, ацяпленне, асвятленне, рэкламу і г. д. Калі вы хочаце забяспечыць сябе прыбыткам, то вы павінны прадаць іх без прамаруджання.

Сабекошт непрададзеных тавараў расце з цягам часу. Агаворкам, адхіленням, выключэнням тут не месца. І камерсанты, якія глядзяць на свае крамы як на склады, што збываюць са сваіх запасаў толькі тое, што патрабуюць пакупнікі, асуджаны на няўдачу.

Я ведаў такіх гандляроў, якія ўпотай радаваліся, бачачы, як іх крамы паступова напаўняліся непрададзеным таварам. Ім падабалася царстваваць сярод велізарных запасаў, і мне здавалася, што яны мараць аб тым шчаслівым дні, калі ў іх краме будзе тавару столькі, што ім можна было б задаволіць патрэбнасці пакупнікоў усяго свету.

Само сабой зразумела, справа ў іх не ішла. Яны складвалі магчымыя для іх прыбыткі на верхнія паліцы сваёй крамы. Яны проста не ведалі, што хада часу павялічвае сабекошт тавару.

Існуе велізарная розніца паміж грашыма і ўласнасцю. Кошт грошай павялічваецца, у той час як кошт уласнасці падае. Капітал на працягу 15—20 гадоў сам сабой павялічваецца, тады як уласнасць з цягам часу страчвае сваю каштоўнасць.

Капітал расце, уласнасць жа разбураецца. Калі вы маеце справу з таварамі, дзейнічайце як мага больш імкліва.

Уся ваша энергія павінна быць накіравана на хуткую вытворчасць, неадкладны продаж і транспарціроўку без прамаруджання.

Вось якімі палажэннямі можна нашпігоўваць гандляроў. Ім трэба ўбіваць, што дзесяць сённяшніх продажаў раўнацэнныя адзінаццаці заўтрашнім. Яны павінны засвоіць, што кожнае адкладванне здзелкі хоць бы на дзень вядзе за сабой змяншэнне прыбытку.

Сапраўды, вынік кожнай камерцыйнай здзелкі павінен быў бы падводзіцца ў адзінках часу, у той час як звычайна ён паводзіцца ў грашовых адзінках.

І ў той жа час шматлікія гаспадары — далёка не багатыя — дапускаюць раскраданне і раскідванне вакол сябе чвэрць гадзін і паўгадзін. Кожны можа знайсці страчаную манету, але страчаныя паўгадзіны нікому ніколі не знайсці.

Хада часу павялічвае сабекошт.

Беражыце ваш час! Даражыце кожнай яго часцінкай.

У жыцці сапраўдны капітал — гэта час. Ніколі не распачынай ніякай справы без таго, каб не ўключыць у разлік фактар часу.

Будзьце скупымі на хвіліны! Пастаянна задавайце сабе пытанне: ці нельга вырабляць хутчэй і прадаваць раней? Прывучайцеся наколькі магчыма скарачаць расход часу.

Не бойцеся зрабіць што-небудзь вельмі хутка. Гэтага ніколі не здарыцца. Заўсёды сустрэнуцца марудлівыя людзі, шмат выпадковасцей і ўсякіх перашкод, якія вас затрымаюць.

Замаруджанне прыходзіць само па сабе, паскарэнне ж трэба дабівацца.

Такім чынам, у рабочыя гадзіны вы павінны працаваць, як дакладная ўдасканаленая машына: за гэта вы вызваліцеся раней і зоймецеся тым, да чаго вас цягне.

*(Працяг будзе).*

*Працяг. Пачатак у нумарах за 27 снежня, 9 і 16 студзеня.*

# ЦЯГНІК ДЛЯ АСАБЛІВА АВАНТУРНЫХ АСОБ

**ЧАСАМ, АДКЛАДАЮЧЫ ЎБОК ДОБРУЮ, РАЗУМНУЮ КНІГУ, ХОЧАЦЦА ПАДЫСЦІ ДА АКНА І ПАГЛЯДЗЕЦЬ: ШТО Ж ЁСЦЬ ГЭТА ЖЫЦЦЁ? Вучыцца яму можна па-рознаму — па тых жа кнігах, па цэнах у магазіне ці па сустрэчах, якія кожнаму дорыць лёс. Жанчына, якую я абрала сваёй настаўніцай, таксама спасцігала навуку жыцця рознымі шляхамі. Таццяна Кірылава — выкладчыца замежнай літаратуры ў БДУ, але паспрабавала сябе як перакладчыца, сцэнарыстка, нават як дзелавая жанчына, якая мае дачыненне да выдання шэрага часопісаў: «Маладая і прывабная», «Краіна кахання», «Сіла духу». Чалавек, які пастаянна змяняе напрамак бегу па жыцці, шукае магчымасць вырвацца з імглы безнадзейнасці, куды мы так лёгка заганяем сябе пасіўнасцю і самашкадаваннем. Сённяшняя яе лекцыя — пра тое, як навучыцца разумець выкрутасы лёсу, ратавацца ад пустэчы, якая запаланіла ўсё вакол. І пра жаночае шчасце, якога аднолькава чакаюць і хатнія гаспадыні, і дзелавыя жанчыны.**

— У душы я ўсё ж «вучылка». Імкнуся несці студэнтам усе свае веды, вопыт. Для мяне вучэбная праграма ніколі не мянялася. Я ніколі не працавала па праграме, якую мне навязвалі. Заўсёды чытала аднолькава — Сартра, Камю, Кафку — тых пісьменнікаў, якія ў падручнікі не ўключаліся. Таму для мяне праграма мяняецца толькі зараз, таму што з'яўляюцца новыя імёны, новыя аўтары. І для таго, каб гаварыць пра літаратуру 80-х ці 90-х гадоў, трэба шукаць нейкія манаграфіі, публікацыі. А зараз гэта ўсё даволі складана. Раней паступалі цікавыя журналы: «Замежная літаратура», «Сучасная літаратура за мяжой», па іх можна было сачыць, якія навінкі з'явіліся ў іншых краінах. Былі замежныя студэнты, якім я заказвала прывезці творы канкрэтных аўтараў. Штосьці прывозілі калегі з-за мяжы, знаёмыя. Была магчымасць увесь час быць у курсе падзей. Акрамя таго, праходзіла штогадовая канферэнцыя ў Маскве, якая давала вельмі шмат. Я ведала, што кожны год у канцы студзеня еду ў Маскву і слухаю самых знакамітых навукоўцаў у галіне замежнай літаратуры, набіраюся ў іх розуму. Рабіліся даклады па нямецкай, іспанскай, італьянскай, японскай літаратуры. Зараз у нас праблемы з камандзіроўкамі ў Маскву, хочаш — едзь за свае грошы. А за 600 тысяч дацэнцкай зарплаты далёка не паедзеш.

Студэнты поўнасцю аддадзены пад апеку выкладчыкаў. Калі прааналізаваць праграмы, што я давала ў мінулым годзе студэнтам сваіх курсаў, то яны вельмі сучасныя. Што датычыць іншых курсаў — усё залежыць ад выкладчыкаў. Ва ўсякім разе, я не магу адаслаць сваіх студэнтаў да падручніка, які напісаны вельмі добрымі літаратарамі, але ў духу марксізму-ленінізму. Буйных і вядомых паэтаў ганьбяць, тых жа, хто нічым асаблівым як паэт не вызначаецца, але з левымі ідэямі, — усхваляюць. Дзевятнаццатае стагоддзе чытаю ўжо зусім па-іншаму, нават класічныя рэчы імкнуся разглядзець праз сучасную прызму.

**— А вас ніколі, скажам так, не ўшчувалі за тое, што адважыліся змяніць падыход да літаратуры?**

— На шчасце, на маіх лекцыях не было назіральнікаў. Не, аднойчы была праверка з партшколы, у 85-м годзе (хтосьці «накапаў», відаць). Пасядзеў чалавек, паслухаў маю лекцыю, можа, нават і не ведаў, пра каго я гавару, таму і выйшаў сабе спакойненька...

**— Калі паглядзець на сённяшніх студэнтаў, на іх адносіны да жыцця і вучобы, якая будучыня чакае нашу краіну?**

— Пакуль я не магу сказаць... Раней на журфаку з'яўляліся яркія асобы, гэта было бачна адразу, калі заходзіў у аўдыторыю. Арыентаваўся не на ўвесь курс—50 чалавек, а на трох, чатырох, перад якімі не хацелася схібіць. Я лічу, што трэба разлічваць на самы высокі студэнцкі ўзровень і ніколі не апускацца ў сваіх лекцыях да ўспрымання студэнтаў, якія хацелі б, каб ім проста пераказалі змест падручніка.

Калі кажуць: я чытаў Джойса ці Пруста па крытыцы, у мяне пачынаецца псіхічны зрыў. Немагчыма вучыць літаратуру па падручніках. Я свайму студэнту хутчэй дарую няведанне даты нараджэння пісьменніка, чым тое, што ён не чытаў яго твораў.

Канешне, аднаму выкладчыку ўсю сусветную літаратуру чытаць нельга. А я ў мінулым годзе чытала сусветную літаратуру ад антычнасці да нашых дзён. Каму небудзь за мяжой расказаць пра гэта — дык узнялі б на смех: такіх спецыялістаў не бывае. Чалавек можа быць спецыялістам у англійскай літаратуры, ці нейкай іншай, ці ў пэўным перыядзе. Калі я напішу ў сваім рэзюме, што магу чытаць лекцыі па сусветнай літаратуры, на мяне паглядзяць ці як на генія, ці як на ідыёта. Па-мойму, я ні тым ні другім не з'яўляюся.

**— Зараз столькі кніжак навокал, чытай — не хачу. Ды прыгожыя такія, рознакаляровыя, у асноўным лёгкая чытаніна. Месца на паліцы яны займаюць, але ці зоймуць месца ў душы?**

— Бывае, я бяру нейкі раман як снатворнае, і за пару гадзін яго прачытваю. Калі праз пяць дзён спытаеце імёны галоўных герояў, далібог, не адкажу. Там няма нічога такога, што чалавек можа запомніць. Праз пэўны час я магу ўзяць гэтую кнігу і прачытаць нанова.

**— А што вы адчувалі, калі перакладалі такія кнігі?**

— Я адчувала патрэбу ў ежы. Працаваў фрэйдаўскі інстынкт голаду, таму што існаваць на маю зарплату было немагчыма. І калі выдаўся момант, трэба было не скардзіцца на тое, як дрэнна я жыву, а зарабляць грошы. І калі штосьці не атрымаецца з гэтай працай, я буду імкнуцца знайсці новую. Каб забяспечыць сябе, каб не думаць перад прылаўкам: 200 ці 300 грамаў каўбасы купіць. Ва ўсім іншым патрэбы ў мяне мінімальныя, але я не люблю эканоміць на ежы.

**— Ёсць людзі, якія могуць адолець любыя перашкоды на сваім шляху. Напэўна таму гэтых перашкод бывае вельмі шмат. Ці вядома вам пачуццё перамогі над жыццёвымі складанасцямі?**

— Спачатку мне вельмі перашкаджала тое, што я была іншадумцам. Асабліва многа нервовых клетак спаліла з-за гэтага, таму што нястрыманая на язык, не баюся выказваць свае меркаванні. Думаю, мае лекцыі — таму пацвярджэнне. Потым зайздрасць людская перашкаджае жыць. Многія людзі могуць паскардзіцца: «Мне так дрэнна» — і ўсё пройдзе. Мне таксама часам хочацца плакаць. Але сціскаеш зубы, ідзеш далей. Таму што ёсць сям'я, якой трэба дапамагаць, старыя, якім неабходны лекі. Хочаш не хочаш — бярэш сябе ў рукі і ўступаеш у новы дзень.

Чым бы чалавек ні займаўся, заўсёды сустракаюцца нейкія бар'еры. І маральныя — калі самому не падабаецца тое, што робіш. Натуральна, не падабаецца і іншым.

Вядома, хацелася б мець стабільную універсітэцкую зарплату, на якую можна жыць, займацца любімай справай. Але час выпаў такі — «пераменны», гаворачы словамі Блока. А ў «пераменны» час усе людзі мітусяцца, не знаходзяць сабе месца. Я — тыповы прыклад сённяшняга дня. Таму што адна справа — мяняць свае погляды ў 30, іншая — мяняць іх пасля сарака. Усе людзі мітусяцца да канца свайго жыцця. Стан унутранага спакою ўласцівы толькі ідыётам. Нармальным людзям заўсёды будзе неспакойна — ці ў асабістым жыцці, ці на працы, ці не атрымліваецца штосьці ў творчасці, ці проста сёння галава баліць. Вера ў шчаслівую будучыню цалкам адсутнічае ў мяне. Чакаю хіба што толькі новых перашкод.

**— Як жа з такім песімізмам можна нешта рабіць?**

— Пажывяце з маё — скажаце тое ж самае, калі будзеце шчырыя перад сабой. Канешне, у маладым узросце жанчына можа яшчэ чакаць нейкіх узвышаных пачуццяў. Для жанчыны вельмі важна жыць чаканнем. Мне 46, і я не веру, што на шляху яшчэ сустрэнецца прыгожы прынц, які возьме мяне на рукі (ён, напэўна, з маёй вагой мяне і не падыме) і штосьці зменіць у маім жыцці. Я была б шчаслівая сустрэць мужчыну, за кошт якога магла б адпачыць хоць адзін месяц у годзе. Усё жыццё сама сабе рабіла падарункі, сама вазіла мужа (а потым і не мужа) адпачываць. Ніхто ніколі не думаў, што трэба штосьці зрабіць для мяне. Нават сын, у яго ўласная сям'я, уласныя праблемы. Калі я трапляю ў бальніцу, ён даведваецца пра гэта, калі адтуль патэлефануюць.

**— Пячатка часу — адасобленасць людзей адзін ад аднаго?**

— Так, і розныя светапогляды, розныя адносіны да жыцця. Людзі, якія рана пачалі займацца бізнесам, думаюць, што матэрыяльны бок — галоўны. Калі раней я ганарылася духоўнасцю свайго дзіцяці, то цяпер лічу, што яе замянілі лічбы.

**— Хіба можна замяніць духоўнасць?**

— Напэўна, духоўнасць знікае тады, калі чалавеку няма чаго есці. Ці калі ў чалавека ёсць усё, але хочацца мець яшчэ болей. Здаецца, гэта нейкая спіраль, калі трапіў у яе, яна нясе, і, каб нечага дабіцца, трэба ісці напралом... Нічога, у Амерыцы ўжо вяртаецца паняцце сям'і. Але зараз я думаю, што можна было б увогуле не мець дзяцей. Нейкія жаночыя пачуцці рэалізаваць у працы. Праца — заўсёды лекі ад адзіноты. Многа працы — значыць побач дзесьці многа адзіноты. Бяжыш ад яе...

**— Усё роўна чалавеку ўласціва шукаць спадарожнікаў.**

— У нас проста няма мужчын, якія праяўлялі б сябе як мужчыны. Яны няшчодрыя, нядобрыя, неразумныя. Калі з'яўляецца мужчына, трэба браць на сябе ўвесь цяжар яго праблем — былая жонка, дзеці. Усё гэта кладзецца на плечы жанчыны. І без таго няпроста... Калі ў такім узросце людзі сыходзяцца, то павінны поўнасцю адпавядаць адзін аднаму і не перашкаджаць. Вялікае каханне, вірлівасць пачуццяў уласцівы маладосці. Пасля сарака хочацца стабільнасці. А любой жанчыне, колькі б ёй ні было — 16 ці 60, — патрэбна ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Можа, і ёсць недзе Мужчыны, але мне такія не пападаліся. Адзіны — бацька. Ён быў вельмі моцным чалавекам, многа перажыў. Ён умеў зрабіць шчаслівай жанчыну, якая была побач з ім. На жаль, ён вельмі рана пайшоў з майго жыцця, я нарадзілася, калі яму было 54 гады.

**— Што, акрамя працы, дае магчымасць забыцца на адзіноту?**

— Перш за ўсё кнігі. Хоць, вядома, усё залежыць ад характару. Напрыклад, я — авантурыстка. Калі ёсць грошы, магу сабрацца і паехаць хоць куды. Дазваляю сабе перамену хаця б такога роду на два-тры дні — штосьці ўбачыць, паглядзець. Магу дазволіць сабе проста пайсці ў добры рэстаран і паабедаць. Часам бывае, калі трэба суцешыцца, я купляю сабе нейкі падарунак. Напрыклад, добрыя духі. Таму што ведаю дакладна: ніхто з блізкіх усё роўна не падорыць на свята тыя духі, што мне падабаюцца. Я магу купіць абсалютна непатрэбную рэч, але нічога — на той момант яна сваю справу зробіць. Грошы існуюць для таго, каб іх траціць. Колькі б я ні зарабляла ва універсітэце, усё траціла, і тое, што зараз у фірме зарабляю, таксама трачу. Ніколі ў жыцці не было ашчаднай кніжкі. Колькі прыходзіць, столькі і траціцца. Прыходзіла мала — трацілася мала. Прыходзіць болей — і траціцца адпаведна. Мне часта даводзіцца аддаваць, не шкадую, калі раблю гэта. Неверагодна, колькі за жыццё мы страчваем. Цяжэй за ўсё страчваць людзей. Былі сябры, якія падводзілі, кралі. З часам я навучылася пераступаць праз такіх людзей, хоць і балюча пераглядаць адносіны. Былі і фізічныя страты: хтосьці з сяброў паміраў, хтосьці пераязджаў у іншы горад, эмігрыраваў. Канешне, усё роўна застаюцца сябры, хоць бачыш іх недахопы. Звязваюць гады, прывычка, боязь адзіноты. Зрэшты, я думаю, што бескарыслівыя сябры вельмі рэдкія.

**— Самая дзіўная авантура ў вашым жыцці?**

— Як я трапіла на працу да містэра Стамбулі. Ён жа мяне ўзяў у сваю фірму з вуліцы, што называецца. Проста пазваніла па аб'яве (патрабаваўся чалавек з веданнем замежных моў), сустрэліся, пагаварылі. Зараз імкнуся не расчараваць яго сваёй працай. У кожнага чалавека ёсць перыяды пакут, свае чорныя палосы, праўда, цяжка, калі яны зацягваюцца. Усе ходзяць пад Богам, маюць пэўны лёс. Але мы сваім характарам, учынкамі здольны ўплываць на лёс. І тады ён абавязкова падорыць шанц. Толькі гэта трэба заслужыць, выпакутаваць.

Я шчаслівая, што здолела захаваць у сваім сэрцы святло, і цяпер яно дапамагае ў жыцці і ў працы. Хоць я лічу, што здабыванне грошай не дастойна жанчыны. Жанчына павінна працаваць дзеля сваёй асалоды. А ўвесь астатні час прысвячаць мужу, сям'і, паходам у касметычны салон, тэатр ці яшчэ куды.

**— Ці ёсць нейкая кніга, дзе можна знайсці адказы на ўсе жыццёвыя пытанні?**

— Я не думаю, што ёсць нейкая адна кніга, хіба што «Біблія», і то ўсе яе па-рознаму тлумачаць. Чалавек чэрпае веды і вопыт, на жаль, не з кніжак, гэта было б надта лёгка. Пакуль сам не наб'еш шышак — нічога не зразумееш. Я схіляю галаву перад людзьмі, якія ўмеюць вучыцца на чужых памылках.

**Гутарыла Ларыса ЦІМОШЫК.**



# Пра нас пяюць званы

**Жыццё яго не песціла: нялёгкае дзяцінства, вайна, вучоба ў строгіх, але прызнаных майстроў, першыя творчыя выпрабаванні... Усё гэта з жыцця Мікалая Іванавіча Кандрацьева.**

Па звычайных мерках гэта жыццё ўжо акрэслілася, бо сёння чалавек адзначае юбілей, з вышыні якога бачна і маладосць, і сталасць, і надышоўшы пенсіённы ўзрост. Па законах творчасці — сама творчасць не спыняецца межамі ўзросту. Нядаўна скульптар Кандрацьеў здзівіў усіх сваіх сяброў і прыхільнікаў: адкрыў персанальную выстаўку. Сёння гэта вельмі цяжкая справа, і не толькі таму, што патрабуе нямала сродкаў. Сёння, калі ў грамадстве пераасэнсоўваецца само паняцце творчасці, далёка не кожны з мастакоў адважыцца сказаць прама: я такі, як мае творы. Глядзіце і рабіце высновы.



Творы Кандрацьева — гэта не толькі яго ўласны адбітак — у іх адлюстравана ўсё наша грамадства.

У майстэрні старога скульптара вы ўбачыце партрэт Леніна-рэвалюцыянера і фігуру Хрыста-Збавіцеля, яго героі — простыя вясковыя механізатары і знакамітыя навукоўцы. Ён на свае вочы бачыў і ўвасобіў у бронзе постаці беларускіх партызан, індыйскіх рабочых, заходнегерманскіх бюргераў... Перад яго вачыма прайшло вялікае жыццё ў розных сваіх вымярэннях, і гэта сёння дае майстру падставу рабіць свае высновы.

Адна з работ на яго выстаўцы ўражвае незвычайным выглядам: на шматвяковае дрэва прысеў у задуменні чалавек, а над яго галавою, нібы брама ў свет існасці, вісяць званы.

Майстар ведае, пра каго яны пяюць.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

# ЗАМЕСТ КВАТЭР — САЦЫЯЛЬНЫЯ СУБСІДЫI

**НАВАТ КАЛІ МЕРКАВАЦЬ ПА СТАНУ на канец 1994 года на ўліку тых, хто мае патрэбу ў жыллі, знаходзілася 651,8 тысячы сем'яў, уключаючы адзіночак. З іх 118,1 тысячы сем'яў карысталіся першачарговым правам на атрыманне жылля, гэта значыць мелі льготы на паляпшэнне сваіх жыллёвых умоў. Гэта прыкладна кожная 5-6-я сям'я. На ўліку для ўступлення ў жыллёва-будаўнічыя кааператывы знаходзілася 96,7 тысячы сем'яў. У гарадскіх паселішчах пражывала прыкладна 95,6 працэнта сем'яў, якія стаялі на ўліку маючых патрэбу, астатнія 4,4 працэнта — у сельскай мясцовасці.**

**Народ спакваля прывыкае да ісціны: «Бясплатнага жылля не будзе». Але ж разам з тым нельга сказаць, што дзяржава скінула з сябе цяжар вырашэння жыллёвых праблем. Адзін з крокаў, які прымушае шукаць шляхі да паратунку, — Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб некаторых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва», падпісаны 22 снежня 1995 года. Сярод іншага ідзе ў дакуменце размова і пра аднаразовыя субсідыі на будаўніцтва (рэканструкцыю) ці пакупку жылля. Пра тое, што ж гэта такое — субсідыі, якім чынам яны паўплываюць ці маглі б паўплываць (пакуль жа сам варыянт субсідзіравання трэба разглядаць як праект, што яшчэ патрабуе зацвярджэння ўрадам), — і наша размова з начальнікам упраўлення жыллёвай палітыкі Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь Таццянай Васільеўнай СМІРНОВАЙ.**

**— Першае, што хацелася б ведаць, ці многа шанцаў у маламаёмных, сярэдне забяспечаных грамадзян атрымаць субсідыі згодна з прапаноўваемай міністэрствам метадалогіяй?**

— Вядома ж, многа, калі яны даўно стаяць на ўліку на атрыманне кватэры. Справа вось у чым. У адпаведнасці са сваімі магчымасцямі ў выканкомах вырашаюць, хто мае права на пазачарговае і першачарговае атрыманне субсідый. Мінскі гарвыканком, напрыклад, мяркуе, што першачарговае права атрымання будуць мець тыя, хто знаходзіцца на ўліку 15 гадоў і болей. І ў залежнасці ад умоў пражывання, іншых акалічнасцей і будзе складвацца памер субсідый.

**— І якія ўсё ж гэта акалічнасці, што будуць уплываць на памер субсідыі?**

— Велічыня субсідыі павінна залежаць ад сукупнага даходу сям'і, часу знаходжання на ўліку на паляпшэнне іх жыллёвых умоў і ўзроўню забяспечанасці жыллём. Атрымліваецца, што ў максімальным памеры субсідыя прадастаўляецца сем'ям, якія маюць мінімальныя даходы і знаходзяцца на ўліку маючых патрэбу максімальны час. Уплываць будзе і тое, калі сем'і не маюць уласнага жылля, або ў іх адсутнічае магчымасць атрымаць яго па найму. Важны фактар і права сям'і на індэксацыю чэкаў «Жыллё», пры ўмове, што гэтыя чэкі яшчэ не скарыстаны.

**— Давайце паспрабуем разгледзець на прыкладзе...**

— Калі ласка. На канец 1995 года суадносіны паміж сярэдняй заработнай платай, мінімальным спажывецкім бюджэтам і коштам будаўніцтва кватэры ў шматкватэрным тыпавым доме для сям'і з трох чалавек, у якой двое працуюць, выглядае наступным чынам. Даход сям'і складае 2 мільёны рублёў у месяц. Мінімальны спажывецкі бюджэт сям'і — 2,6 млн. рублёў. Кошт будаўніцтва двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 квадратных метраў — у межах ад 120 да 200 мільёнаў рублёў, у залежнасці ад горада, дзе будуецца кватэра.

**— Выходзіць, што сям'і патрэбна субсідыя ў памеры поўнага кошту будаўніцтва жылля?**

— Магчыма, гэта і было б справядліва ў адносінах да тых, хто прастаяў на чарзе 12—15 гадоў і болей. Але ж субсідыі павінны яшчэ спрыяць і ўкладанню ўласных сродкаў у паляпшэнне сваіх жыллёвых умоў. Значыць, у дачыненні да субсідый размова ідзе пра 70 працэнтаў кошту будаўніцтва жылля. Астатнія ж 30 — клопат саміх забудоўшчыкаў.

**— Значыць, каб атрымаць субсідыю, жадаючаму пабудаваць кватэру трэба прадставіць у выканком даведку, што ён ужо адкрыў у банку рахунак і мае там неабходную суму, напрыклад, калі размова ідзе пра 180 мільёнаў, то гэта 54 мільёны рублёў?**

— Не зусім так. Па-першае, давайце вернемся яшчэ да таго, як фарміруецца субсідыя. Складаецца яна з дзвюх частак: з базавай долі і з сумы праіндэксаваных жыллёвых чэкаў. Велічыня базавай вызначаецца па табліцы ў залежнасці ад таго, колькі гадоў чалавек стаіць у чарзе. Напрыклад, пяць гадоў (і меней пяці) — тады базавая доля субсідыі складзе 30 працэнтаў. Пры ўмове, канешне ж, што даход на 1 члена сям'і будзе роўны 1,0 мінімальнага спажывецкага бюджэту. Калі чалавек стаіць на чарзе 15 гадоў і болей, то базавая доля складзе 50 працэнтаў ад кошту будучага жылля. Калі ў лічбах, то можна і на такім канкрэтным прыкладзе. Кватэра ўсяго каштуе 180 мільёнаў. Чалавек, які стаяў у чарзе пяць гадоў, мае права на базавую субсідыю ў 54 мільёны. Дадайце жыллёвыя чэкі, колькі ёсць у сям'і на руках. Дапусцім, іх праіндэксавалі на 50 мільёнаў. Такім чынам, агульны памер субсідыі — 104 мільёны рублёў. Застаецца сабраць 76 мільёнаў...

**— І з даведкай, што такія грошы на тваё імя ляжаць у банку, прыйсці ў выканком?**

— Не трэба спяшацца. Да таго, пакуль не будзе прынята рашэнне аб выдзяленні субсідыі, даведка гэтая не патрэбна. Калі ж будзе прынята рашэнне, што грошы па субсідыі пералічаны на ваша імя, то тады ўжо і рыхтуйце даведку, адкрывайце ў банку рахунак. Але ж не забывайцеся, што атрыманне субсідыі прадугледжвае і наяўнасць канкрэтнага праекта, дамовы з выканаўцам. Грошы «ў паветра» даваць ніхто не будзе. Дзяржава не зацікаўлена, каб субсідыі з'ядала інфляцыя.

Увогуле, трэба, відаць, адзначыць такую акалічнасць. Субсідыі будуць прадастаўляцца гэткім жа чынам, як і кватэры, — у адпаведнасці з часам пастаноўкі на чаргу. Словам, субсідыі — замест кватэр.

**— Ці не здарыцца так, што і зараз будзе парушаны прынцып сацыяльнай справядлівасці? Было ж і такое, што адны атрымлівалі па дзве кватэры, а другія і сёння ў чарзе стаяць, жывучы ў камуналках, у інтэрнатах...**

— Субсідыі, безумоўна, аднаразовыя. Мы прапаноўваем наладзіць іх жорсткі ўлік. Па-першае, трэба стварыць банк інфармацыі па ўсіх, хто будзе атрымліваць субсідыі, а афармляцца яны будуць па прад'яўленню нават і пасведчання аб нараджэнні. Прозвішча ж чалавек можа і змяніць, а вось час, месца нараджэння на ўсё жыццё застаюцца адны і тыя ж.

**Прапаноўваемая форма субсідыі — адзін з найбольш выразных па сённяшнім часе накірункаў вырашэння жыллёвай праблемы. Праўда, не трэба забывацца, што ўсё выкладзенае вышэй — толькі праект, падрыхтаваны Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь.**

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**ДА ВЕДАМА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ!**

**Начальнік упраўлення жыллёвай палітыкі Міністэрства будаўніцтва і архітэктуры Таццяна Васільеўна СМІРНОВА згадзілася кансультаваць газету па некаторых найбольш актуальных пытаннях, звязаных з атрыманнем і будаўніцтвам жылля.**

*АСАБІСТАЕ*

# МАЯ ВЁСКА

## САЧЫНЕННЕ НА ВОЛЬНУЮ ТЭМУ

**НЕШТА РАПТАМ НАКАЦІЎ-НАХЛЫНУЎ такі далёкі і такі блізкі, як здавалася раней, такі нязначны ўспамін. Гэткі самы зімовы сонечны дзень. За акном блішчыць-пераліваецца, сляпуча рэжа вочы бялюткі-бялюткі снег. Столькі сонца, столькі святла, што нават у халодным класе, здаецца, цяплее, і хочацца скінуць з плячэй паліто, якога не здымаеш у школьным памяшканні ці не з пачатку ацяпляльнага сезона, і пальчаткі, у якіх нязграбна трымаеш задубелую ручку. А яшчэ больш хочацца туды, на вуліцу, на гэты снег, каб ісці дадому па ледзь пратаптанай, вузенькай — на след ад саней — дарозе, удыхаць марознае пякучае паветра, з каціным задавальненнем прыжмурваць вочы — халоднае сонца свеціць прама ў твар... Але звініць званок, уваходзіць у клас мама, таксама ў паліто на плячах. Яна адразу дае заданне: сачыненне на вольную тэму. Крыху падумаўшы, мы адно за адным схіляемся над сшыткамі, раз-пораз хукаючы на ручкі: у холадзе яны дрэнна пішуць...**

**Тады я адразу прыдумала тэму: «Мая вёска». Шчыра, з захапленнем пісала пра прыгажосць мясцовай прыроды, пра добрых працавітых людзей, якія ў нас жывуць. Сорак пяць хвілін урока хапіла на тое сачыненне. Мама паставіла мне «выдатна»...**

***Цяпер захацелася напісаць аб тым, чаго не было ў школьным сачыненні. Аб тым, чаго ў чатырнаццацігадовай наіўнай любові да ўсіх і ўсяго проста не заўважала. Аб тым, чаго не было яшчэ тады і што ў апошнія гады стала тыповым, традыцыйным. Аб тым, што баліць сягоння мне і маім землякам. Карацей, рэпартаж. На тэму «Беларуская вёска. Апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя». Хаця не. Нават не рэпартаж. Бо гэта не назіранне збоку. Хутчэй — асобныя эпізоды праз прызму суб'ектыўнага. Бо гэта — маё. Значыць, так: «Мая вёска. Канец XX стагоддзя...»***

...ЗАРАЗ ЯНА, НАПЭЎНА, ПАТАНАЕ Ў СНЯГАХ. Толькі ад гэтага людзям мала радасці. Наўрад ці хто любуецца на вялізныя горы-гурбы. Як кажуць, амаль поўная ізаляцыя ад знешняга свету. Самая далёкая брыгада саўгаса — значыць, бульдозер прыйдзе ў апошнюю чаргу. Званіла маме, яна ў школу ездзіць на лыжах — пешшу не дабрацца. Да школы ў суседняй вёсцы — 3 кіламетры. У той вёсцы ёсць машынны двор — там і трактары, і бульдозеры. Яна таксама цэнтр калгаса. Але, як разумееце, іншага. Таму да нас дарогі ніхто адтуль чысціць не будзе. Нават калі школьнікі разам з настаўніцай засядуць па пояс у снезе. Тэрытарыяльны прынцып такі.

Гэты ж прынцып мае землякі адчуваюць у любую пару года. І зноў на той жа дарозе. Гадоў пяць таму паміж нашымі вёскамі пачалі класці асфальт. Спорна так працавалі, весела: за два тыдні палову з тых 3 кіламетраў заасфальтавалі. А потым —стоп. Так і па сённяшні дзень вясной або восенню з нашай вёскі ў суседнюю ў нармальным абутку можна дайсці толькі да возера. А пасля — абувай гумовыя боты і — наперад па роднай беларускай гразі. Прычым цікава: асфальт абрываецца не адразу: адна палова дарогі метраў на дзесяць даўжэй. Не ведаю, можа проста асфальту не хапіла... Але мудрыя мае аднавяскоўцы лічаць, што ўсё проста вымерана было да сантыметра. І што не кладуць далей асфальт толькі з-за таго, што ўзніклі рознагалоссі паміж нашым саўгасным і суседнім калгасным начальствам. Тэрытарыяльны прынцып... Здаецца мне чамусьці, што яны не вельмі і памыляюцца...

ДЫ ШТО ТЫЯ ГУРБЫ! Раней яны таксама былі не меншыя. Але ў школу на лыжах хадзіць не даводзілася. Старэйшыя хлопцы ішлі першыя, затым — цэлы натоўп малечы — і вось яна, ніштаватая пратаптаная дарога, нават на кані ехаць можна. З аднаго нашага класа хадзіла 7 чалавек... Зараз у школу з вёскі ходзяць толькі 4 чалавекі — познія дзеці немаладых ужо бацькоў. Апошнія. Гады праз тры замеценая дарога аднойчы раніцай так і застанецца некранутай белай раўнінай — па ёй нікому не трэба будзе ісці вучыцца... Не будзе на снезе слядоў маленькіх ножак, толькі вялізныя паласатыя адбіткі ад колаў паштовай машыны ці якога-небудзь залётнага трактара.

Моладзь з вёскі паехала. Хто ў Мінск, хто ў Дзяржынск. Вяртацца ніхто не хоча. Дый не будзе. Толькі на выхадныя (у нядзелю вечарам) ажыўляецца вёска ля магазіна, дзе разварочваецца аўтобус з Дзяржынска. Гэта пасівелыя бацькі праводзяць гарадскіх сваіх дзетак з поўнымі сумкамі. Весела, хораша... А потым падыдзе аўтобус, дзеткі з сумкамі пазалазяць-пазагружаюцца ў яго, а бацькі пойдуць па двачатры чалавекі па даўжэзнай адзінай вуліцы, разыходзячыся па хатах, у якіх добра калі яшчэ нехта ёсць, а часцей — кот, тэлевізар з бясконцым серыялам, ад якога — слёзы на вочы, ды пустыя ложкі, на якіх, здаецца, зусім нядаўна не было свабоднага месца. І зноў на цэлы тыдзень кожная машына на вуліцы — навіна, і зноў чакаць пятніцы ці суботы, каб туды, пад магазін, да аўтобуса, з якога выйдзе (а можа і не) той ці тая, дзеля каго яшчэ жыеш, працуеш, тупаеш па гаспадарцы...

Раней я любіла, выйшаўшы за вёску на лыжах, глядзець на яе, стоячы на якім-небудзь узгорку. Вельмі прыгожа гэта было — пад вечар усе палілі ў печах, і амаль з кожнага коміна ішоў раўнюткім серабрыстым слупам дым, ствараючы разам з заходзячым сонцам і блакітным небам непаўторную гаму натуральных чыстых фарбаў. Цяпер я не хачу глядзець на вёску. На многіх комінах — а іх з кожным годам большае — снег не растае ўсю зіму. Гаспадары гэтых хат перасяляюцца на зіму з-за нямогласці да дзяцей у горад. А нярэдка — бліжэй, на могілкі. Хаты становяцца дачамі. Але — Божа мой! — як не падыходзіць да іх, дыхтоўна збудаваных, цёплых, у якіх, здаецца заўжды ўтульна, заўжды — дома, гэта слова, якое асацыіруецца ў многіх з вясёлым невялікім дашчаным домікам...



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

...РАНЕЙ, У ЗАСТОЙНЫЯ ЧАСЫ, я з вялізнай ахвотай хадзіла ў наш вясковы магазін. Там заўсёды было шмат людзей, усе нешта купялялі, гаманілі, жартавалі. Асабліва падабалася, калі прывозілі свежамарожаную рыбу. Яе выкладвалі вялікімі плітамі проста на прылавак, і вясёлыя цёткі пачыналі дзяліць, а прасцей — ламаць гэтыя пласты, выбіраючы сабе патрэбны кавалак. Заўжды людна было ў магазіне. Хаця ён нават магазінам не называўся — ларок проста — і не ацяпляўся нават ніяк зімой. Але пад вечар прадаўшчыца ўжо магла абыходзіцца без абагравальніка — «людзі надыхалі», казала.

Цяпер у нас не ларок, а вялікі новы магазін. Толькі вось рыбу марожаную ўжо не прывозяць. Стаяць толькі рыбныя кансервы — па 12—15 тысяч. І людзі тут збіраюцца ў панядзелак, сераду і ў суботу — калі прывозяць хлеб. На вешалцы адзінока вісіць ватоўка — амаль за 400 тысяч... Хоць магазін цяпер з батарэямі ацяплення, у вялізным, амаль пустым памяшканні прадаўшчыца мерзне. Не ідуць людзі. Няма чаго купляць (нават зубная паста — рэдкасць) ды няма і за што. Тым, хто працуе ў саўгасе, зарплату даюць раз у тры месяцы (300—400 тысяч). Яе, гэтак жа, як і пенсіі старым, ледзь хапае на хлеб, на камбікорм, каб трымаць якога-небудзь парсюка...

Мама расказвала: перад Новым годам спыталася ў прадаўшчыц: «Як, дзяўчаты, свята адчуваеце?» «Якое там свята, — адказалі. — Раней людзі куплялі шмат чаго, а цяпер прыйдзе бабка якая-небудзь і просіць узважыць адзін селядзец, самы меншы...»

...ПРЫЯЗДЖАЮЧЫ ДАМОЎ, АБАВЯЗКОВА ІДУ Ў ЛЕС. Там спакойна. Але душэўная гармонія апошнім часам парушаецца, калі падыходжу да былога фазанарыя. Зараз там усё зарасло маліннікам... А гадоў дванаццаць таму ўсе дзівіліся, нашто ў лес вядуць электрычнасць. Потым высветлілася: на беразе возера будуць разводзіць дзіўных заморскіх птушак. А крыху пазней, летам, усе хадзілі паглядзець на абнесены сеткай, прыбраны ўчастак лесу, дзе быў і інкубатар, і ўцепленае памяшканне, дзе паважна хадзілі прыгожыя і нябачаныя раней птушкі — каралеўскія фазаны... Чамусьці ўсе думалі, што разводзяць іх проста так, для прыгажосці... А потым зімой прыехалі пад возера чорныя «Волгі» з міністрамі. Наглядчыкі прынялі сетку, што была нацягнута над фазанарыем. Птушкі рванулі на свабоду, да неба... Іх стралялі, нават не даючы набраць вышыню. Мы, якраз ідучы са школы, бачылі ўсё гэта... А ноччу ўдарыў яшчэ большы мароз. І вяскоўцы чулі пад сваімі вокнамі крыкі птушак, а пасля раніцай знаходзілі іх ля хаты замерзлых — прыгожых яркіх фазанаў і іх шэранькіх, непрыметных самак. Міністры былі не вельмі добрымі стралкамі. Птушкі, у якіх не пацэлілі, апынуліся на волі, на марозе. Цеплалюбівыя паўднёвыя птушкі. Каралеўскія фазаны.

ГАДОЎ ПЯЦЬ ТАМУ некаму ў галаву прыйшло пачысціць наша возера. Яно — штучнае, проста перагароджаная дамбай рэчка. Калі яго рабілі, павысякалі па берагах лес і затапілі. Атрымалася невялікае азярцо. Запусцілі туды малькоў люстранога карпа — зноў жа для начальства (колішні дырэктар саўгаса вельмі любіў падобныя мерапрыемствы)... І вось нехта вырашыў возера пачысціць — выкарчаваць пні, што засталіся на былых берагах рэчкі — на дне. Адкрылі дамбу, спусцілі ваду... Прастаяла яно так з вясны до восені. Вяскоўцы глядзелі на пні, якія ніхто і не думаў карчаваць, потым прыходзілі з кашамі, вёдрамі, мяхамі, у гумовых ботах, хадзілі па балоцістым дне, збіралі рыбу. Калі ўжо раённая газета дала фота былога возера з крытычным каментарыем — дамбу закрылі. Стала зноў возера. Карчы па-ранейшаму на дне. Затое людзі ўволю наеліся юшкі...

І ЎСЁ Ж, УСПОМНІЎШЫ ПАЭТА, «трэба дома бываць часцей». І не госцем. Толькі вось, мама казала, замяло ўсё. Аўтобусы не ходзяць. Не дабрацца...

А там — такі ж марозны яркі дзень. У якім-небудзь класе ўрок беларускай мовы. Дзеці сядзяць у паліто і ў пальчатках. Заходзіць мама, таксама ў паліто. «У нас сёння сачыненне на вольную тэму». І, магчыма, нехта, хукаючы на ручку, піша пра сваю вёску прыгожыя ўзнёслыя словы, падобныя на тыя, што пісала калісь я. Хаця, магчыма, і не. Мама гаворыць, што дзеці вясковыя цяпер не такія сталі. Іншыя думкі ў іх зусім...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*ГЕРМАНІЯ ПАСЛЯ АБ'ЯДНАННЯ*

# АДНА КРАІНА — ДЗВЕ НАЦЫІ

*(Працяг. Пачатак у №№ 18 — 19)*



**НА ЗДЫМКУ: адзін з галоўных аўтараў і ўдзельнікаў удалай рэалізацыі ідэі аб'яднання Германіі канцлер ФРГ Гельмут Коль і яго жонка Ханелора на свяце вясковай моды ў горадзе Санкт-Гільгене.**

**Фота «Інтэр-Нацыёнес».**

УСХОДНІЯ НЕМЦЫ так моцна імкнуліся хутчэй паспытаць (у прамым і пераносным сэнсе) пладоў заходняй цывілізацыі, што гублялі пачуццё меры і арыенціры. Часам гэта заходнеманія набывала кур'ёзныя формы.

Напрыклад, пасля аб'яднання ва Усходняй Германіі сталі набываць прадукты з ФРГ, Галандыі, Францыі, іншых краін свету, але толькі не мясцовыя. Іх вытворцы неслі страшэнныя страты, хаця яны пастаўлялі зусім не дрэнны харч.

І прыйшлося тутэйшым аграрнікам і перапрацоўшчыкам сельгаспрадукцыі па-новаму заваёўваць свой рынак. Рабілі яны гэта наступным чынам. З грузавіка, які ставілі непадалёку ад супермаркета, гандлявалі, скажам, бульбай, якая па якасці была лепшай (спецыяльна падбіралі) за італьянскую і, што галоўнае, больш таннай. Наведвальнікі супермаркета пачалі патроху купляць бульбу. Увогуле яна разыходзілася няблага. Нарэшце і гаспадары супермаркета пачалі рабіць аптовыя закупкі гэтай і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі. Сёння ва Усходняй Германіі прадукты харчавання сваёй вытворчасці купляюць не горш за заходнія. Бо і цэны на іх прымальныя, што нярэдка з'яўляецца рашаючым фактарам.

Далёка не ўсе ўсходнія немцы сёння жывуць так, як ім марылася ў першыя месяцы аб'яднання. Частка іх здолела адаптавацца ў новых умовах. Ім пашанцавала знайсці сваё месца ў сістэме адносінаў рыначнай эканомікі. Ёсць і такія, хто зарабіў не адну сотню тысяч марак, заняў высокае службовае становішча і ў поўнай меры атрымлівае асалоду ад жыцця ў адной з самых багатых краін свету.

Але падобным шчаслівым паваротам лёсу можа пахваліцца абмежаваная колькасць людзей. Пераважная ж большасць, мякка кажучы, не вельмі радуецца свайму матэрыяльнаму становішчу. Праблема №1 новых зямель — беспрацоўе. Яно, вядома, расце і ў старых землях, але ўсё ж больш ад яго пакутуюць усходнія немцы. Асабліва шмат беспрацоўных сярод жанчын. Маладыя сем'і баяцца мець больш аднаго дзіцяці. У выніку змяншаецца рост насельніцтва, яно няўхільна старэе. Дарэчы, як і ў нас.

Так, усходнія немцы прызнаюць, што пасля аб'яднання многае змянілася ў лепшы бок, але пры гэтым заўважаюць, што ў горшы — таксама. Страта працы ўдарыла многіх нечакана і вельмі балюча. Уявіце сабе людзей, якія ўвогуле раней жылі няблага, але разлічвалі давесці свой дабрабыт да стандартаў ФРГ. На многае яны не замахваліся. Рабочыя, інжынеры, школьныя настаўнікі, выкладчыкі ВНУ, чыноўнікі хацелі жыць не горш за сваіх калег у старых землях.

Напрыклад, зраўнавацца з імі па жыллёвых умовах. У сярэднім у ГДР на аднаго жыхара ў залежнасці ад рэгіёна прыпадала 26—28 квадратных метраў жылплошчы, а ў ФРГ — 37—40. Аднак пераадолець гэты разрыў удалося, як вы самі разумееце, не ўсім.

Безумоўна, усходніх немцаў вабілі недасягальныя ва ўмовах ГДР магчымасці жыхароў ФРГ свабодна выказваць сваё меркаванне і без перашкод падарожнічаць па свеце. Што датычыць першага жадання, то яно цяпер рэалізавана стопрацэнтна.

Складаней было з другім жаданнем. Замест павышэння зарплаты многія атрымалі паведамленне аб звальненні. Работу страцілі не толькі партыйныя і дзяржаўныя функцыянеры, супрацоўнікі блізкіх да іх устаноў накшталт штазі і інш., у адстаўку былі адпраўлены амаль усе выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў. У першую чаргу тыя, хто выкладаў грамадскія дысцыпліны. Гэткі ж лёс напаткаў і школьных настаўнікаў грамадазнаўства. Ім увогуле забаранілі выкладаць. Прычым пацярпелі таксама і выкладчыкі тэхнічных прадметаў. Некаторыя вядучыя ВНУ Усходняй Германіі былі паніжаны ў статусе. Вядомы і прэстыжны Эканамічны універсітэт імя Гумбальта ў Берліне, які выпусціў тысячы кваліфікаваных спецыялістаў, цяпер пераведзены ў разрад інстытута. Яго дыплом сёння ўжо не каціруецца. Пра гэта ўсходнія немцы гавораць з крыўдай.

З падазронасцю новыя ўлады ставяцца тут да тых, хто атрымаў вышэйшую адукацыю ў СССР. Выпускнікі савецкіх ВНУ, асабліва такіх, як Маскоўскі універсітэт і шэрага іншых, якія ў ГДР ганарыліся сваімі дыпломамі, аказаліся адлучанымі ад спраў. Хаця яны лічаць, што іх адукацыя не горшая, а ў нечым нават і лепшая за адукацыю, атрыманую ў ФРГ.

Напрыклад, работу страцілі ўсе, хто закончыў Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў. Іх вопыт і высокая кваліфікацыя сталі чамусьці непатрэбнымі. А ў дыпламатаў ГДР меліся немалыя здабыткі ў даволі спецыфічных краінах і ў асобных рэгіёнах зямнога шара. Паслы ГДР мелі там трывалыя і шырокія сувязі з мясцовымі лідэрамі і ўплывовымі людзьмі, што магло б паслужыць на карысць аб'яднанай Германіі.

— Дык не, — з горыччу гаварыў мне адзін былы высокапастаўлены дыпламат ГДР, — выкінулі на вуліцу. Нашы веды, кантакты, напрацоўкі праігнаравалі. Можна было б зразумець, калі б нас звольнілі з-за нізкай прафесіянальнай падрыхтоўкі. Я не бачыў, але мае калегі расказвалі, што прычынай нядобрых адносінаў да нас стала пісьмо Ганса-Дзітрыха Геншэра, былога міністра замежных спраў ФРГ. Ён у сваім лісце да кіраўніцтва міністэрства перасцерагаў ад прыняцця на сур'ёзную дзяржаўную службу дыпламатаў ГДР. Маўляў, усе яны супрацоўнічалі са штазі і савецкім КДБ. Выключэнне зрабілі для самых маладых, якія толькі перад аб'яднаннем пачалі працаваць у МЗС ГДР.

Таму шматвопытныя дыпламаты з веданнем рэдкіх моў сёння перабіваюцца выпадковымі заробкамі, бяруцца за працу, значна ніжэйшую за іх інтэлектуальны патэнцыял, — скардзіўся мне на жыццё іншы супрацоўнік МЗС ГДР. Прозвішча субяседніка не называю, бо баюся нашкодзіць яму: хто ведае, можа з цягам часу сітуацыя пераменіцца і яго зноў возьмуць на дыпламатычную службу. Бо сёння ў Германіі вядуцца дыскусіі наконт таго, што чалавек не павінен цярпець, несці адказнасць за тое, што ён рабіў у рамках ГДРаўскіх законаў. Яго рашэнні, дзеянні нельга разглядаць з пункту гледжання законаў аб'яднанай Германіі.

Цяпер сталі відавочнымі сур'ёзныя пралікі, дапушчаныя пры аб'яднанні. Нашы субяседнікі з зямлі Брандэнбург гаварылі што яшчэ да зліцця дзвюх краін трэба было Народнай палатай ГДР і бундэстагам ФРГ паспрабаваць прывесці ў адпаведнасць іх заканадаўствы, і такім чынам улічыць інтарэсы ўсходніх немцаў. Адным з варыянтаў магла б стаць сумесная Канстытуцыя. Гэтага, на жаль не здарылася. І атрымалася, што заканадаўства ФРГ, яе Канстытуцыя былі на фармальным узроўні перанесены на тэрыторыю ГДР. У выніку ўсходнія немцы набылі шэраг буйных эканамічных, сацыяльных і прававых праблем, якіх можна было б пазбегнуць.

Разыходзяцца немцы і ў поглядах на тое, хто ж сапраўды быў героем другой сусветнай вайны сярод іх суайчыннікаў. У ГДР усе 40 гадоў яе існавання праслаўляліся камуністы-падпольшчыкі як адзіная рэальная арганізаваная сіла, што процістаяла нацысцкаму рэжыму. У многім гэта адпавядала ісціне.

У ФРГ галоўнымі ўдзельнікамі Супраціўлення сталі генералы і вышэйшыя афіцэры вермахта. Яны ажыццявілі некалькі спроб замаху на фюрэра. А сапраўдным героем з'яўляецца палкоўнік фон Штауфенберг, які са сваімі паплечнікамі 20 ліпеня 1944 года арганізаваў выбух (на жаль, няўдалы) у штабкватэры Гітлера Вольфшанце. Дарэчы, гэты дзень у ФРГ штогод святкуецца. Шырока і ўрачыста, з удзелам федэральнага канцлера Коля і трансляцыяй па ўсіх каналах тэлебачання, адзначалася 50-годдзе спробы палкоўніка фон Штауфенберга і яго аднадумцаў ліквідаваць Гітлера.

У мяне, напрыклад, мужнасць і смеласць гэтых людзей не выклікае сумненняў. Бо яны паставілі на карту не толькі сваё жыццё, але і жыццё дзяцей, жонак і пацярпелі няўдачу. У наступныя месяцы былі жорстка пакараны як удзельнікі змовы, так і члены іх сем'яў, сваякі, сябры, знаёмыя.

Але вось ва ўсходніх немцаў усхваленне заслуг толькі гэтых афіцэраў і генералаў выклікае нездаволенасць і іронію. Што гэта, маўляў, за героі, якія не здолелі знішчыць фюрэра ў такіх спрыяльных умовах. Калі б яны сапраўды не шкадавалі жыцця, то здзейснілі б свае планы. А то абмежаваліся тым, што паставілі пад стол партфель з бомбай і не зрабілі больш рашучых захадаў.

І як важны аргумент мае субяседнікі прыводзяць меркаванне аднаго яўрэйскага аўтара, які пасля доўгага вывучэння гэтага путчу прыйшоў да высновы, што яго арганізатары зусім не героі. Палкоўнік фон Штауфенберг і іншыя пайшлі на знішчэнне Гітлера толькі тады, калі ўзнікла рэальная пагроза разгрому фашысцкай Германіі, а значыць і іх высокаму становішчу, багаццю, сямейным маёнткам. А да 1944 года яны верай і праўдай служылі фюрэру, выконвалі яго загады, мірыліся з забойствам мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей, у тым ліку і яўрэяў. І толькі ў канцы вайны ў іх, маўляў, раскрыліся вочы.

Усходнім немцам не падабаецца замоўчванне афіцыйнымі асобамі актыўнай ролі падпольных камуністычных арганізацый накшталт добра вядомай у нас «Чырвонай капэлы». Не падабаецца і тое, што дзейнасць гэтай арганізацыі (у ФРГ яе яшчэ называюць «Чырвоным аркестрам») зводзяць пераважна да шпіянажу на карысць Масквы. Хаця на яе рахунку было шмат спраў супраць фашызму.

Расчараванасць усходніх немцаў пераменамі праяўляецца па-рознаму. Большасцю нездаволеных авалодала грамадзянская апатыя. Яны ўжо не вераць палітыкам, перасталі ўдзельнічаць у выбарах. Напрыклад, апошняе галасаванне ў Еўрапарламент у новых землях прайшло пры нізкай актыўнасці жыхароў. Так, у зямлі Брандэнбург толькі 40 працэнтаў маючых права голасу прыйшлі да урнаў.

Нехта запіў, іншы замкнуўся ў сабе. Нямала тых, хто стаў агрэсіўным, шукае вінаватых у сваіх няўдачах. І знаходзіць іх у асобе іншаземных рабочых. Не выпадкова самыя буйныя пагромы іншаземцаў мелі месца на тэрыторыі былой ГДР.

Праблема іншаземцаў — адна з самых вострых у краіне. Іх тут сёння жыве амаль сем мільёнаў, ці кожны дваццаты жыхар Германіі — іншаземец. І далёка не ўсе іншаземцы — людзі бедныя. Так, прадстаўнікі першай хвалі перасяленцаў, якія прыехалі ў ФРГ на заробкі, сапраўды былі малаадукаванымі і забітымі туркамі, грэкамі, югаславамі, арабамі. Яны з ахвотаю браліся за самую чорную, брудную работу, якой грэбавалі карэнныя жыхары.

У той час эканоміка краіны бурна развівалася, у свеце загаварылі пра эканамічны нямецкі цуд. У ФРГ параўнаўча хутка пасля вайны шырокія слаі насельніцтва пачалі жыць заможна. Нармальнай і добрааплатнай работы хапала ўсім.

Тады, у 50—60-х гадах, і ўзнікла ідэя запрашаць на часовую працу іншаземцаў, ці, як іх празвалі немцы, — гастарбайтэраў.

Сёння ўжо больш як палова іншаземцаў жывуць у Германіі звыш дзесяці гадоў, а чвэрць з іх — больш за дваццаць. Дзве трэці іх дзяцей нарадзіліся тут. Яны лепш за бацькоў прыстасоўваюцца да заходняй цывілізацыі. Асабліва тыя, хто належыць да трэцяга пакалення пражываючых тут.

Цяпер іншаземец — універсітэцкі прафесар, прадпрымальнік, спецыяліст высокай кваліфікацыі, уладальнік рэстарана, кафэ, піўной, запраўчнай станцыі і г. д. не рэдкасць у Германіі. Яны, як людзі, якія дасягнулі нечага ў жыцці, валодаюць, адпаведна, добрымі дамамі і кватэрамі, рэгулярна мяняюць аўтамабілі і адпачываюць на прэстыжных замежных курортах.

Калі заходнія немцы па прычыне іх адпаведнага выхавання ўспрымаюць гэтыя метамарфозы з іншаземцамі больш-менш цярпіма, то даволі шматлікую групу ўсходніх раздражняе тое, што «каляровыя» прышэльцы маюць значна больш высокі ўзровень жыцця. І менавіта зайздрасць да поспехаў іншаземных суграмадзян у немалой ступені падштурхоўвае маладых без работы і адукацыі немцаў да помсты. Яны абражаюць, збіваюць «каляровых», разбураюць і падпальваюць іх дамы.

Моцныя выбухі агрэсіўнасці моладзі вымусілі ўлады, сацыёлагаў, палітолагаў уважліва вывучыць сацыяльныя і псіхалагічныя прычыны гэтых злачынстваў. Па загаду федэральнага міністэрства па справах жанчын і моладзі быў зроблены аналіз. Аказалася, што сярод падазраваемых у дзеяннях супраць іншаземцаў — доля беспрацоўных ва Усходняй Германіі ў два разы большая, чым у Заходняй, — адпаведна 26 і 12 працэнтаў. У новых землях яшчэ большая колькасць маладых людзей належыць да праваэкстрэмісцкіх груповак, чым у старых, — адпаведна 37 і 19 працэнтаў.

Аналіз паказаў, што ў аснове злачынстваў супраць іншаземцаў няма палітычных меркаванняў і нейкіх агульных матываў. На пагромы экстрэмістаў падштурхнула разам з іншымі прычынамі і нездаволенасць сваім матэрыяльным становішчам, пачуццё пагрозы з боку іншаземцаў, звычайная чалавечая зайздрасць.

Высветлілася таксама, што маладыя людзі Усходняй Германіі больш сумна і аднастайна бавяць вольны час. Яны звычайна бадзяюцца па вуліцах, дзе часта трапляюць пад уплыў лідэраў экстрэмісцкіх суполак. Усходнія немцы з-за адсутнасці грошай і цікавых прапаноў менш займаюцца спортам, ходзяць у кіно, на канцэрты поп-музыкі, наведваюць маленькія ўтульныя кабачкі і кафэ, дзе збіраецца моладзь па інтарэсах.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*(Заканчэнне будзе.)*

## ФРГ ПРАДОЎЖЫЛА НА НЕАБМЕЖАВАНЫ ТЭРМІН МАРАТОРЫЙ НА ЭКСПАРТ МІН

Федэральны ўрад прыняў рашэнне прадоўжыць на неабмежаваны час трохгадовы мараторый на экспарт проціпяхотных мін, які дзейнічае з 1 ліпеня 1994 года. Гэта рашэнне з'яўляецца важным укладам у ліквідацыю небяспечнай спадчыны ваенных канфліктаў, заявіў міністр замежных спраў ФРГ Клаус Кінкель.

Гэтым рашэннем федэральны ўрад, па словах Кінкеля, пасылае ясны сігнал усім краінам, якія падпісалі мінны пратакол да Пагаднення ААН аб зброі ад 1980 года.

— Неадкладная ліквідацыя проціпяхотных мін з'яўляецца важнай прадпасылкай для вяртання бежанцаў у тыя мясціны, дзе вяліся баявыя дзеянні, для мірнага развіцця гэтых краін, — лічыць Кінкель.

ФРГ не абмяжоўваецца толькі заклікамі. Яе МЗС прапаноўвае ў 1996 годзе 10 мільёнаў марак для аказання дапамогі пры размініраванні і ліквідацыі мін у тых рэгіёнах, дзе вяліся войны: Мазамбіку, Афганістане, Камбоджы, Анголе, краінах Цэнтральнай Амерыкі.

Міністр заклікаў усе краіны спыніць набыццё проціпяхотных мін і выкарыстоўваць вызваленыя такім чынам сродкі на работы па размініраванню.

**Леанід ТУГАРЫН.**

**Аляксандр ХАНДОГІН, дырэктар спорткомплексу «Раўбічы»**

# «РАЎБІЧЫ» — гэта свайго роду ўдзельнае княства, хоць я сябе князем і не лічу, паколькі за пяць гадоў работы на комплексе замашкі вяльможы не засвоіў.

**Спартыўны комплекс «Раўбічы», які размясціўся ў маляўнічым мястэчку пад Мінскам, за апошнія гадоў пяць крыху здаў свае пазіцыі як спартыўнага монстра, дзе за яго 22-гадовую біяграфію неадназова праводзіліся дарослыя і маладзёжныя чэмпіянаты свету па біятлону, этапы Кубка свету па лыжных гонках. Фінансавая стабільнасць і каляндар міжнародных спаборніцтваў некуды зніклі пасля развалу Савецкага Саюза. А крызісна-эканамічныя працэсы ў рэспубліцы наогул паставілі кіраўніцтва вядомага ў свеце комплексу перад дылемай: быць ці не быць? Прыйшлося тэрмінова перакваліфікавацца і ў базу адпачынку для ўсіх жадаючых, і ў арганізацыю, здольную прымаць на самым высокім узроўні міжнародныя семінары, сімпозіумы, канферэнцыі зусім неспартыўнага характару, захоўваючы пры гэтым свой першапачатковы статус.**

**Аб тым, як сёння жывецца спорткомплексу «Раўбічы», якім чынам удаецца выжываць, што найбольш за ўсё хвалюе яго работнікаў, — наша размова з дырэктарам с/к Раўбічы Аляксандрам ХАНДОГІНЫМ.**

**— Аляксандр Пятровіч, апошнім часам ходзіць шмат размоў вакол комплексу, якім вы кіруеце. Усе яны зводзяцца прыкладна да аднаго: Раўбічы паступова прыходзяць у заняпад і тут хутка ледзь не ўсё травой зарасце...**

— Я гэта ўжо не ўпершыню чую. Сапраўды, сёння мы перажываем далёка не самыя лепшыя часы, таму што комплекс жыве такім самым жыццём, як і ўся рэспубліка, і ўсе працэсы, што адбываюцца ў краіне, непасрэдна датычацца і нас. Аднак якія б экзамены жыццё нам ні наладжвала, Раўбічы былі і застаюцца нармальным дзеяздольным арганізмам. Комплекс ніколі не пуставаў. Ён быў і застаецца галоўнай базай падрыхтоўкі беларускіх спартсменаў, перш за ўсё прадстаўнікоў зімовых відаў спорту: лыжнікаў, біятланістаў, фрыстайлістаў...

Праўда, гасцямі тут бываюць і весляры, і гімнасты, і шахматысты і наогул спартсмены самых розных дысцыплін.

Безумоўна, за кошт членаў зборных каманд спартыўныя збудаванні нельга было б трымаць у належным стане, таму мне разам са сваёй камандай давялося вырашаць вельмі складаную задачу: як захаваць гэты комплекс?

Прыйшлося шукаць сабе кліентаў у асобе звычайных аматараў актыўнага адпачынку. Гэта значыць, што кожны жадаючы можа прыпыніцца ў любой з наших гасцініц, палюбавацца прыгожымі навакольнымі пейзажамі.

Да таго ж тут выдатнае месца для правядзення самых розных мерапрыемстваў, нават сямейных банкетаў.

**— Ведаю, што замежныя бізнесмены, прадпрымальнікі і проста дзелавыя людзі часта скарыстоўваюць магчымасць пабыць на прыродзе і выбіраюць Раўбічы.**

**А як у гэтым плане замежныя спартсмены? Яны выпадкова не забылі сюды дарогу?**

— Не, вядома. Тут заўсёды знаходзіліся спартсмены з многіх краін СНД. Напрыклад, летась у Раўбічах на зборах была зборная Расіі па канькабежнаму спорту на чале з галоўным трэнерам Валерыем Мураталевым. Ужо больш як тры тыдні ў нас трэніруюцца і жывуць украінскія фрыстайлісты, якія, дарэчы, планавалі адправіцца ў аўстрыйскія Альпы. Ды і што тут казаць, калі нацыянальная зборная Аўстрыі па фрыстайлу кожнае лета прыязджае стажыравацца ў Раўбічы.

**— За што аўстрыйцам можна сказаць дзякуй? Як-ніяк, а разлічваюцца валютай...**

— І не толькі за гэта хочацца ім сказаць добрае слова. Яны практычна адкрылі Міжнароднай федэрацыі лыжнага спорту (ФІС) вочы на наш комплекс як на гатовыя спартыўныя збудаванні, дзе можна праводзіць спаборніцтвы самага высокага рангу. Дзякуючы сумесным намаганням Раўбічы напярэдадні Новага года прымалі два этапы Кубка Еўропы па фрыстайлу. Думаю, што не за гарамі той час, калі балельшчыкі змогуць «ужывую» паглядзець тут зорак біятлона, лыжных гонак.

**— Наколькі я памятаю, апошні раз тыя ж лыжнікі-зоркі былі ў Раўбічах акно ў студзені 1991 года. Я маю на ўвазе нарвежца Б'ерна Дэлі, Уладзіміра Смірнова з Казахстана...**

— Так, здаецца, усё было нядаўна, а прайшло ўжо пяць гадоў.

**— Аляксандр Пятровіч, я думаю, вы пагодзіцеся з тым, што ў простых людзей, якія, мабыць, ніколі і не былі ў вас, с/к «Раўбічы» асацыіруецца з трамплінамі, якія часцей за ўсё пустуюць.**

— На жаль, пакуль міжнародных спаборніцтваў па двваборству, скачках з трампліна ў нас не праводзіліся, хоць, зазначу, адзін-два чалавекі, якія рэальна прэтэндуюць на паездку на зімовыя Алімпійскія гульні-98, у нас ёсць. Не сумняваюся, што дэфіцыт папулярнасці скачкоў з трампліна абумоўлены тым, што гэта далёка не грашова-прываблівы від спорту. І тым не менш, рабіць грошы на ім можна і трэба. Я ў гэтым упэўніўся, калі ў разгар лета ў Раўбічах праводзіліся скачкі з 60-метровага трампліна па штучнаму пакрыццю. Іншаземцы паразявалі раты і ўсё запісвалі, нават на відэакамеру. Таму мы вырашылі ў гэтым годзе паспрабаваць купіць новае штучнае пакрыццё.

**— А вы не баіцеся, што да трампліна рукі не дойдуць? Вам жа, як прэзідэнту федэрацыі біятлону, больш увагі трэба будзе ўдзяляць праблемам «страляючых лыжнікаў». Дарэчы, ці не цяжкавата вам займаць дзве пасады адначасова?**

— Намёк зразумеў. Як вы ведаеце, на пасадзе дырэктара с/к «Раўбічы» я ўжо пяць гадоў, таму што справы комплексу ведаю добра. Цяпер што датычыцца работы па сумяшчальніцтву.

У сакавіку мінулага года ў Федэрацыі біятлона Беларусі праходзіла справаздачна-выбарчая канферэнцыя. Былы кіраўнік айчыннага біятлона, спадар Цішкевіч, на той час змяніў месца работы. Так атрымалася, што за мяне прагаласавала большасць.

**— Атрымалася, што біятлон вам далі ў нагрузку?**

— Не думаю. Па-першае, я з'яўляюся членам прэзідыума федэрацыі біятлона, займаюся яго праблемамі, можна сказаць, штодзённа.

Да таго ж Раўбічы — гэта асноўная база падрыхтоўкі беларускіх «страляючых лыжнікаў», як бы родны дом. Таму ўсе арганізацыйныя пытанні ў гэтым відзе спорту аўтаматычна завязваліся на мне.

**— Можна не сумнявацца, што біятланісты сёння адчуваюць у Раўбічах да сябе намнога больш увагі, чым іншыя «зімнікі».**

— Як бы не так. Паверце, што калі б пры нашай размове прысутнічалі лыжнікі ці фрыстайлісты, то яны не пагадзіліся б з вамі. Хоць, па вялікаму рахунку, айчынны біятлон сёння мае права на больш ільготных умовы існавання, паколькі поспехі нашых біятланістаў у свеце даюць ім на гэта права.

І тым не менш, сёння я перажываю за ўсе віды спорту.

**— Аляксандр Пятровіч, вы выпадкова не знаходзіцеся пад уплывам работы ў камсамоле, дзе вы курыравалі спорт наогул.**

— Калі вы хочаце мяне закрануць, то дарэмна, з пачуццём гумару ў Хандогіна ўсё ў парадку. А што датычыцца работы ў камсамоле, то я не лічу, што гэта самыя горшыя гады ў маёй працоўнай біяграфіі, таму што добрасумленна выконваў сваю справу і ніколі не адчуваў сябе бюракратам ці чыноўнікам у горшым сэнсе гэтага слова. Мабыць таму, што ўсё сваё свядомае жыццё займаюся спортам. І на заводзе «Гарызонт», дзе пачынаў слесарам, і ў радыётэхнічным інстытуце, які ў свой час закончыў, і ў камсамоле, і ў Дзяржкамспорце, дзе таксама давялося працаваць.

**— А зараз вам часу хапае, каб пабегаць ці паганяць мячык?**

— Гэта, як гаворыцца, справа святая. У нас ёсць свая футбольная каманда. Таму два разы на тыдзень я актыўна ганяю мяч, часам нават забіваю нядрэнныя галы.

**— Такія мерапрыемствы звычайна заканчваюцца паходам у лазню ці сауну.**

— У асноўным так.

**— У свой час наконт Раўбіч сцвярджалі, што сюды часта наведваюцца высокія спартыўна-дзяржаўныя чыны, каб папарыцца з бярозавым венікам, папіць піва, змыць грахі.**

— Наконт грахоў не скажу, бо не ведаю, а што прыязджаюць да нас папарыцца людзі незалежна ад пасады — дык гэта так. Магчыма таму, што ў самім Мінску з лазнямі праблемы.

Я думаю, кожны нармальны чалавек павінен хаця б раз у тыдзень бываць у лазні, таму што ў ванне здароўя не атрымаеш.

Цяпер пра падтэкст вашага пытання. Ведаеце, камусьці, магчыма, і хочацца выставіць комплекс у самым непрыглядным святле, аднак не трэба верыць чуткам і розным плёткам. Што ёсць — тое і ёсць. А чаго няма, таго, прабачце, нам не прыпішаш.

**— Як вы ставіцеся да крытыкі?**

— Калі яна справядлівая, то стараюся выправіць сябе ў нечым, а калі не, то раней хацелася кінуцца да крыўдзіцеля з кулакамі, а зараз, як чалавек вопытны, стараюся не звяртаць на гэта ўвагі. Так спакайней будзе.

**— Аляксандр Пятровіч, вы сказалі, што з пачуццём гумару ў вас усё ў парадку. А ці пакрыўдзіцеся вы, калі ў ваш адрас скажуць, што вы князь у асоба ўзятым княстве? Мне здаецца, што ў дачыненні да Раўбіч можна зрабіць такое параўнанне.**

— Канешне, чаму б не пафантазіраваць. Згодзен, Раўбічы — гэта свайго роду ўдзельнае княства, аднак я сябе князем не адчуваю, таму што за пяць гадоў работы на комплексе замашкі вяльможы не засвоіў. Ведаеце, я ўпэўнены, што многія людзі, якія прыязджаюць да нас не першы раз, нават не ведаюць дырэктара ў твар. Чаму? Мне проста няма патрэбы «свяціцца».

**— Тыя, каму трэба, вас добра ведаюць. Я маю на ўвазе работнікаў Раўбічаў.**

— Так. На комплексе працуе каля 250 чалавек, якія забяспечваюць яго жыццядзейнасць. Людзі самых розных прафесій.

**— Не засумуеш?**

— Не. А калі мне бывае сумна на душы, то я саджуся ў машыну і цісну на газ. Асабліва люблю ехаць па незнаёмых дарогах.

**— Вы добра арыентуецеся па компасу?Інакш рызыкуеце заблудзіцца.**

— Нядрэнна, хоць я ім амаль не карыстаюся. Заблудзіцца не баюся, бо з маленства прывык выходзіць самастойна з розных сітуацый. Думаю, што гэты фактар дапамагае мне добра арыентавацца ў жыцці.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## АПЕРАТЫЎНА • АПЕРАТЫЎНА • АПЕРАТЫЎНА • АПЕРАТЫЎНА • АПЕРАТЫЎНА • АПЕРАТЫЎНА • АПЕРАТЫЎНА

***ФУТБОЛ***

### Пачнём са шведаў

З Вены вярнуўся галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболу Сяргей Бароўскі, дзе ён разам са сваімі калегамі сапернікамі па чацвёртай адборачнай групе чэмпіянату свету-98, настаўнікамі зборных Швецыі, Шатландыі, Аўстрыі, Латвіі і Эстоніі выпрацаваў каляндар адборачных гульняў на 1996—97 гг. Папярэдне ён выглядае так:

| | |
|---|---|
| | **1996 год** |
| **1 чэрвеня** | Швецыя — **Беларусь** |
| **31 жніўня** | **Беларусь** — Эстонія |
| **5 кастрычніка** | Эстонія — **Беларусь** |
| **9 кастрычніка** | **Беларусь** — Латвія |
| | **1997 год** |
| **30 красавіка** | Латвія — **Беларусь** |
| **8 чэрвеня** | **Беларусь** — Шатландыя |
| **20 жніўня** | **Беларусь** — Швецыя |
| **6 верасня** | Шатландыя — **Беларусь** |
| **10 верасня** | **Беларусь** — Аўстрыя |
| **11 кастрычніка** | Аўстрыя — **Беларусь** |

Расклад указаных матчаў узгоднены з усімі шасцю галоўнымі трэнерамі. Засталася яшчэ адна фармальнасць. Свой подпіс павінен паставіць нехта з кіраўніцтва УЕФА.

***ВАЛЕЙБОЛ***

### З пераменным поспехам

Валейбалісты гродзенскага «Камунальніка» правядуць у сераду трэці матч у розыгрышы Кубка ўладальнікаў кубкаў. Сапернікам беларусаў будзе славенская каманда «Малібор». Да гэтага валейбалісты з Гродна ўжо правялі дзве сустрэчы. У стартавым паядынку, які прайшоў у родных сценах, нашы хлопцы ўпэўнена перамаглі каманду «Альком» (Галандыя). Лік 3:0 гаворыць сам за сябе.

Праўда, паўтарыць такі поспех у Парыжы ім не ўдалося. Мясцовы «Пары Сен-Жэрмен» пры гарачай падтрымцы чатырох з паловай тысяч балельшчыкаў перамог «Камунальнік» з лікам 3:1. Пераломнай стала чацвёртая партыя, у якой гаспадары пляцоўкі прыклалі ўсе сілы, каб перацягнуць чашу шаляў на свой бок, што ім і ўдалося зрабіць. Лік па партыях — 15:0; 15:12; 9:15; 15:6.

***МОТАГОНКІ***

### На пад'ездах да фіналу

У італьянскім мястэчку Чэнца прайшлі чвэрцьфінальныя заезды чэмпіянату свету па спідвею (мотагонкі на ледзяной дарожцы). У спаборніцтвах удзельнічаў і беларускі гоншчык Віктар Сакалоў, які стаў пераможцам аднаго з заездаў. Гэты поспех дае Сакалову права выступіць у паўфінальных гонках, якія пройдуць у лютым у Германіі.

***ХАКЕЙ НА ТРАВЕ***

### Раз паражэнне, два паражэнне...

У іспанскім горадзе Барселоне гэтымі днямі праходзіць кваліфікацыйны турнір па хакею на траве з удзелам зборных Беларусі, Іспаніі, Малайзіі, Індыі, Галандыі, Англіі, Канады і Бельгіі. Па рэгламенту спаборніцтваў пяць першых месцаў з'яўляюцца пропускам на летнія Алімпійскія гульні ў Атланце. Зборная Беларусі разам з гаспадарамі адкрывала турнір. Матч прайшоў у роўнай барацьбе, і нашы нават вялі з лікам 1:0 да сярэдзіны другога тайма, аднак перамогу ўтрымаць не змаглі. Іспанцы выдатна правялі канцоўку сустрэчы і забілі беларусам тры мячы.

Не пашанцавала зборнай рэспублікі ў другой сустрэчы. На шляху стала каманда Малайзіі, якая абыграла нашых 2:0.

Учора позна ўвечары беларусы сустракаліся з галандцамі.

Да канца турніру, а фініш яго назначаны на 28 студзеня, нашы хлопцы сустрэнуцца з астатнімі камандамі групы.

***ВОДНАЕ ПОЛА***

### Ватэрпалісты «пралятаюць» міма Атланты

У французскім горадзе Мюлузе завяршыўся кваліфікацыйны турнір па воднаму пола, дзе за тры пуцёўкі ў наступны этап спаборніцтваў змагаліся зборныя Беларусі, Югаславіі, Францыі, Славакіі і Грузіі.

На жаль, беларуская каманда аказалася за бортам трохі магнейшых. Паражэнні ад зборных Югаславіі — 5:12, Францыі — 5:7, Славакіі — 7:9 і перамога над грузінамі 9:2 пакінулі беларусаў толькі на чацвёртым месцы.

А ў Германію, дзе з 10 па 18 лютага пройдзе заключны кваліфікацыйны алімпійскі турнір, едуць югаславы, французы і славакі.

***ФІГУРНАЕ КАТАННЕ***

### Што пакажа Шаршнёву Мурашка?

Сталіца Балгарыі, горад Сафія на цэлы тыдзень стала цэнтрам еўрапейскага фігурнага катання. З 21 па 28 студзеня тут праходзіць першынство кантынента.

Беларусь на гэтых спаборніцтвах прадстаўляе вядомы ў рэспубліцы фігурыст Аляксандр Мурашка.

На пару з ім на Балканы адправіўся і наш арбітр Аляксей Шаршнёў, які будзе судзіць выступленні спартсменаў ва ўсіх чатырох дысцыплінах.

***БАІ БЕЗ ПРАВІЛАЎ***

### У СТАЛІЧНЫМ ЦЫРКУ

Сёння ў сталічным цырку пройдзець беспрэцэдэнтны ў спартыўнай гісторыі Беларусі спаборніцтвы — міжнародны турнір па баях без правілаў. У свеце вочныя паядынкі баксёраў, каратыстаў, самбістаў і іншых прадстаўнікоў кантактных відаў даволі папулярныя. Нядаўна ў Маскве ўжо прайшоў шосты чэмпіянат свету, дзе ўдзельнічалі і два беларускія спартсмены.

А ў мінскім турніры, арганізатарамі якога сталі кампанія «Сэкай» і вядучы папулярнай тэлеперадачы «Асілак» Уладзімір Даўжэнка, за галоўны прыз у пяць тысяч долараў ЗША паспачаюцца амаль два дзесяткі каманд з Беларусі і краін далёкага і блізкага замежжа.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Там, «за кардонам»

Цягнік на Сімферопаль адыходзіў з Мінска ў навагоднюю ноч. Відавочна, з гэтай прычыны праваднік нашага вагона быў падпіўшы, а вагон прамёрз да апошняй гайкі. Пасажыры пайшлі шукаць цяпло. Але ў суседнім вагоне карціна была такая ж.

— Як вы трываеце ў такім холадзе? — пытаемся ў правадніцы. Яна расшпіліла куртку і паказала двухлітровую бутэльку з гарачай вадой:

— А нічога, грэемся!

— Вы з Украіны?

— Не, мы крымскія, — адказала праваднiца.

Прыйшоў брыгадзір цягніка, але і ён быў «вясёлы». Давялося вярнуцца ў свой вагон, нацягнуць на вушы шапку і зашыцца ў матрацы. Два знізу, адзін зверху.

За Гомелем, на граніцы з Украінай, зайшлі нашы пагранічнікі і праверылі пашпарты. Падцягнутыя і далікатныя салдаты.

Уся Украіна заснежана, і нават у Херсоне, куды я прыехаў праз двое сутак, снег. Праўда, значна цяплей — адзін-два градусы марозу.

Мне прыходзілася некалькі разоў бываць у гэтым горадзе, але гэта было даўнавата, яшчэ да незалежнасці. Тады жыццё наша не вельмі рознілася. Сёння ж, хаця эканамічная сітуацыя ў нашых краінах мае шмат агульнага, тым не менш, можна зрабіць некаторыя параўнанні.

Той факт, што на Беларусь украінцы вязуць алей, цукар, макарону ды семачкі, яшчэ ні аб чым не сведчыць. Так, гэтыя прадукты на Украіне таннейшыя, але ж і пенсіі ды зарплаты там значна ніжэйшыя, чым у нас.

Сярэдняя пенсія — 3,5—4 млн. купонаў (1 долар — 190 тыс. купонаў), што складае каля 20 долараў. Пенсія лётчыка-падпалкоўніка — 10 млн. купонаў (50 долараў). У нас пенсіі на адну трэць вышэй. Такая ж сітуацыя і з зарплатай.

Магазіны ў Херсоне ў параўнанні з нашымі значна бяднейшыя, асабліва прадуктовыя, няма таго выбару тавараў, а часта адсутнічае і самае неабходнае.

Малако купіць — праблема. У магазіне яго неабходна паспець ухапіць. Затое свабодна прадаецца на рагу ля таго ж магазіна, але па больш высокай цане. Адкрытая спекуляцыя, перапродаж дзяржаўнага. Не хачу сцвярджаць, але падалося, што тут з купляй-продажам значна вальней. Прадаюць і не круцяць галавой па баках баючыся, што знянацку наскочыць міліцыянер ці падатковы інспектар. Мяса ці курыцу здабыць у дзяржаўным сектары — вялікая ўдача. А на рынку свініна каштавала 600 тыс./кг, а курыца — 900 тыс. купонаў.

Сітуацыя ў прамысловасці не лепшая, чым у нас. Адносна стабільна працуе толькі суднарамонтны завод, а вось на заводзе па выпуску камбайнаў з кастрычніка мінулага года не выдавалі зарплату.

У горадзе перабоі з электраэнергіяй і падачай вады. Гарадскі транспарт працуе разладжана, хаця маршрутнае таксі ходзіць рытмічна.

А ў прынцыпе людзі ўжо звыкліся, глядзяць «Санта-Барбару» і многія не задаволены, што героі фільма размаўляюць паўкраінску.

Херсон у сваёй большасці рускамоўны горад. Хаця амаль усе школы ўжо ўкраінскія.

Прыемна было бачыць ачышчаныя ад снегу і пасыпаныя пяском тратуары. Мясіцьперамешваць снег у нашых гарадах — справа звыклая. На цэнтральнай вуліцы Херсона можна выпіць чарку. На табурэтцы стаіць бутэлька гарэлкі і лёгкая закуска. Гарэлка тут удвая танней, чым у нас. Сервіс. Кожны зарабляе як можа.

Назад ехаць было значна лепш. Цягнік абслугоўвала беларуская брыгада, і ў вагоне Сімферопаль — Мінск было цёпла і чыста. Праваднiцы ветлівыя і добразычлівыя. З варам праблем не было. Разам ехала шумная кампанія азербайджанцаў. Апранутыя ў хромавыя паліто ды норкавыя шапкі хлопцы ехалі з пустымі рукамі, без усякага багажу. Дзіўны гэты народ «каўказскай нацыянальнасці», усюды ён адчувае сябе як дома.

Дзесьці за Херсонам у вагон селі жанчыны з мяшкамі ды каністрамі. На пад'ездзе да беларускай граніцы пачалі хаваць семачкі і алей па ўсім вагоне. Закручваць у матрацы, распіхваць па кутках. Украінскія мытнікі паводзяць сябе ўпэўнена. Няма той сціпласці нашых пагранічнікаў. Мытнікі ведаюць, дзе і што ляжыць. На гэты раз нікога не высадзілі і тавар не канфіскавалі. А такое здараецца часта.

Пабываўшы за межамі Беларусі, прыходзіш да высновы, што беларусы маюць даволі каштоўную рысу характару. Наш народ законапаслухмяны. Ён прыхільнік парадку.

Дарэчы, як толькі азербайджанцы выйшлі на перон у Мінску, іх тут жа акружылі амонаўцы. Парадак.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

Імем Рэспублікі Беларусь

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

## Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь

### Аб адпаведнасці Канстытуцыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка старшыні суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Кенік К. І., Пастухова М. І., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І.

з удзелам: прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які прыняў закон: Карповіч Н. А. — заг. сектара юрыдычнага ўпраўлення Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; Матусевіча А. В. — дырэктара Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства;

эксперта Бараўцова В. А. — дырэктара юрыдычнай фірмы разгледзеў у адкрытым пасяджэнні справу аб адпаведнасці Канстытуцыі Закона «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел: Кандрацьеў В. К. — першы намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь; Андрэеў І. С. — першы намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана 16 кастрычніка 1995 года па меркаванню суда на падставе часткі другой артыкула 127 Канстытуцыі, часткі другой артыкула 5 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Праверцы падлягаў Закон «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 13, арт. 128).

Выслухаўшы прадстаўнікоў боку, эксперта, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі, законаў і іншых нарматыўных актаў, вывучыўшы іншыя матэрыялы справы, Канстытуцыйны суд прыйшоў да наступных высноў.

Згодна з артыкулам 106 Канстытуцыі для рэалізацыі паўнамоцтваў выканаўчай улады ў галінах эканомікі, знешняй палітыкі, абароны, нацыянальнай бяспекі, аховы грамадскага парадку і іншых сферах дзяржаўнага кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь ствараецца Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Артыкулам 108 Канстытуцыі ўстаноўлена, што кампетэнцыя Кабінета Міністраў, парадак яго дзейнасці вызначаюцца Законам аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Прааналізаваўшы змест Закона «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь», суд лічыць, што закон прыняты Вярхоўным Саветам у межах яго кампетэнцыі і не супярэчыць Канстытуцыі.

Разам з тым суд адзначае, што асобныя палажэнні правяраемага закона патрабуюць рэдакцыйнага ўдакладнення.

У абзацы шостым артыкула 4 закона адсутнічае ўказанне на тое, што Кабінет Міністраў можа ствараць, рэарганізоўваць, ліквідоўваць толькі тыя арганізацыі, установы, аб'яднанні, якія адносяцца да ўласнасці Рэспублікі Беларусь.

Абзац шосты артыкула 6 закона, які дае права Кабінету Міністраў пры неабходнасці ўстанаўліваць гранічны памер заработнай платы, павінен быць удакладнены, маючы на ўвазе, што гэта норма можа прымяняцца ў прадугледжаных законам выпадках толькі ў адносінах да суб'ектаў дзяржаўнай уласнасці.

Патрабуе ўдакладнення рэдакцыя абзаца другога артыкула 8 закона ў частцы вызначэння Кабінетам Міністраў парадку выкарыстання прыродных рэсурсаў, улічваючы, што такое рэгуляванне павінна ажыццяўляцца ў межах, што ўстанаўліваюцца заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

Частка трэцяя артыкула 17 закона мае патрэбу ў рэдакцыйным удакладненні, зыходзячы з таго, што распрацоўка Кабінетам Міністраў праектаў заканадаўчых актаў па даручэнню Вярхоўнага Савета можа ажыццяўляцца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам.

Акрамя таго, суд звяртае ўвагу на няўзгодненасць часткі чацвёртай артыкула 22 правяраемага закона, які датычыць назначэння кіраўнікоў цэнтральных органаў кіравання, з пунктам 3 артыкула 18 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь».

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128 і 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 11, 36, 38, 40 і 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» Канстытуцыйны суд

**ВЫРАШЫЎ:**

1. Прызнаць Закон «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» не супярэчачым Канстытуцыі.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь прывесці Закон «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» у адпаведнасць з гэтым Заключэннем у частцы перагляду асобных нормаў на прадмет удакладнення іх рэдакцыі.

3. Апублікаваць гэтае Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў тых выданнях, дзе быў апублікаваны Закон «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь».

4. Гэтае Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ.**

18 студзеня 1996 г., г. Мінск № 3 - 31/96

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Афіцыянтка адной з піўных Таронта вельмі абурылася, калі пастаянны наведвальнік замест чаявых даў ёй латарэйны білет.

Аднак праз тыдзень 24-гадовая дама ўзяла назад свае праклёны. Фартуна паднесла ёй галоўны выйгрыш у памеры чатырох мільёнаў долараў. Дзяўчына паступіла высакародна: калі наведвальнік у чарговы раз зайшоў у піўную, каб выпіць куфлік добрага элю, яна падзяліла з ім выйгрыш. Сцвярджаюць, што па справядлівасці.

***ЭКСТРА-ПРЭС***

«Шыварат-навыварат» аказаліся мазгі ў 10-гадовай Вікі Вілмар. Аднойчы малая англічанка прачнулася з моцным галаўным болем і з таго дня пачала пісаць так званым люстраным спосабам. Вікі ўпэўнена наносіла на паперу радкі справа налева, што стварала немалыя цяжкасці для настаўнікаў. Яны маглі чытаць яе сачыненні толькі з дапамогай люстэрка. У выніку медыцынскіх даследаванняў знайсці разгадку не ўдалося. Але нядаўна Вікі спатыкнулася, ударылася галавой, — і з таго часу, на здзіўленне ўрачоў, зноў піша нармальна.

***«Не можа быць»***

У структуры прычын смерці насельніцтва ў Маскве злаякасныя ўтварэнні займаюць трэцяе месца. Пры гэтым мужчыны паміраюць ад злаякасных утварэнняў у 2,2 раза часцей, чым жанчыны. Штогод ад злаякасных анкаўтварэнняў памірае каля 20 тысяч масквічоў.

Але ў той жа час параўнаўчы аналіз паказвае, што захворванне мужчынскага насельніцтва Масквы (241,9 на 100 тысяч жыхароў) значна саступае такому ж у розных краінах свету, напрыклад: Нарвергіі (360,4), ФРГ (336,3), ЗША (330,4), Даніі (323,0), Францыі (317,6), Польшчы (279,8), Англіі (274,1). Тое ж самае можна сказаць і ў адносінах да стандартызаваных паказчыкаў захворвання жанчын: Масква — 178,7, Нарвегія — 323,0, Данія — 290,8, ЗША — 277,0, Швецыя — 235,1...

***«Труд»***

# ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● Радуева чакае трыбунал генерала Дудаева**

Салман Радуеў, камандзір атрада чачэнскіх баевікоў, які нядаўна ўчыніў напад на Кізляр і захапіў вялікую колькасць заложнікаў, вярнуўся ў Чачню і зараз чакае ваеннага трыбунала генерала Дудаева па абвінавачванню ў перавышэнні паўнамоцтваў. Аб гэтым Джахар Дудаеў сказаў у заяве для міжнароднай грамадскасці. Па паведамленнях Радуеў і яго група да гэтага часу ўтрымліваюць каля сотні заложнікаў на ўсходзе Чачні. У сваёй заяве Дудаеў выказаў гатоўнасць да аднаўлення мірных перамоў, але пад эгідай міжнародных арганізацый. Генерал Дудаеў таксама зазначыў, што для Радуева будзе выбрана такое пакаранне, каб у іншых палявых камандзіраў не ўзнікла жадання паўтарыць тую ж памылку. Як сказаў Дудаеў, мэтай аперацыі быў напад на расійскую ваенную базу, але пасля выканання загаду чачэнскія салдаты занялі будынак бальніцы і захапілі заложнікаў. Нават калі баевікі, якія бралі ўдзел у вылазцы, не панясуць пакарання, адно можна сказаць цвёрда: Дудаеў усё больш прыслухоўваецца да асуджэння чачэнскіх сепаратыстаў за мяжой. Тым не менш, расійскі бок заняў жорсткую пазіцыю і выключае магчымасць якіх-небудзь перамоў.

**● Па-зверску забіты гуру мусульман Таджыкістана**

Духоўны лідэр мусульман Таджыкістана Шарыфдада і яго сям'я расстраляны ўчора ноччу ва ўласным доме. Прычына забойства невядома. Вядзецца следства.

**● Грозны можа застацца без энергіі**

Кіраўніцтва адной з буйнейшых у Грозным цеплаэлектрастанцый ЦЭЦ-2 заявіла аб намеры поўнасцю блакіраваць работу прадпрыемства, якое забяспечвае цяплом тысячы жылых дамоў сталіцы Чачні. Галоўная прычына — захоп 16 студзеня баевікамі Дудаева працоўнай змены энергетыкаў і адсутнасць інфармацыі ад федэральных сіл аб выніках іх пошуку. У адпаведнасці з загадам дырэкцыі Паўночна-Каўказскага аддзялення аб'яднанай энергасістэмы «Поўдзеньэнерга», кіраўніцтву ЦЭЦ-2 прадпісана пачаць падрыхтоўку да эвакуацыі з Чачні ўсіх спецыялістаў, якія ўдзельнічаюць у аднаўленні і абслугоўванні чачэнскай энергетыкі.

**● Па шэрагу гарадоў Чачні пракацілася хваля антырасійскіх мітынгаў**

За мінулыя суткі трое супрацоўнікаў міліцыі атрымалі раненні ў чачэнскай сталіцы. Гэта адбылося ў выніку выстралу з гранатамёта баевікамі па атраду міліцыі асобага прызначэння, які знаходзіўся побач з кінатэатрам на Старапрамыслоўскай шашы. У буйных гарадах Чачні дудаеўскія эмісары на працягу тыдня правядзілі мітынгі з колькасцю ўдзельнікаў ад 200 да 300 чалавек, патрабуючы вываду федэральных войскаў з тэрыторыі Чачні.

**● Папа рымскі спадзяецца на аб'яднанне хрысціян**

З заклікам да католікаў і праваслаўных хрысціян пераадолець сцяну, якая іх раздзяляе, і стаць на шлях адзінства, звярнуўся кіраўнік Рымскай каталіцкай царквы Ян Павел II. Выступаючы перад веруючымі з традыцыйнай нядзельнай пропаведдзю на плошчы Святога Пятра ў Рыме, папа рымскі выказаў спадзяванне, што ў надыходзячым трэцім тысячагоддзі ад нараджэння Хрыстова нарэшце наступіць доўгачаканае аб'яднанне розных галін хрысціянскага вучэння.

**● Шанц для чалавецтва**

Аўстралія заклікала сусветную грамадскасць выкарыстаць гістарычную паўзу ў гонцы ўзбраенняў і ліквідаваць ядзерную зброю. Напярэдадні адкрыцця першага пасяджэння Міжнароднай камісіі па ліквідацыі ядзерных узбраенняў, сфарміраванай па ініцыятыве федэральнага ўрада, прэм'ер-міністр Пол Кіцінг заявіў учора па сіднейскім радыё, што заканчэнне халоднай вайны паміж Злучанымі Штатамі і былым Савецкім Саюзам дае унікальную магчымасць для чалавецтва пазбавіцца ядзернай зброі.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і радыё «Бі-эй» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

# НА ДНЕ

**Відаць, мянушка «бомж» для чалавека без пэўнага месца жыхарства цяпер не адпавядае сапраўднасці. «Бамжы» якраз абзавяліся пастаяннымі адрасамі — калодзежамі цеплацэнтралей і падвальнымі памяшканнямі.**

Менавіта тут знаходзілі іх удзельнікі рэйду, праведзенага магілёўскай міліцыяй. Мяркуючы па тым, што «дно» абсталёўвалася з прыкідам на працяглае існаванне — з прыстасаваннямі для прыгатавання ежы і нават «каханкамі» — праваахоўнікі загаварылі не пра начлежкі, а пра ўзнікненне пад зямлёй паралельнага горада. Тым часам крымінальная статыстыка ўсё часцей паведамляе аб фактах, калі людзі, не здольныя процістаяць жорсткаму лёсу, выбіраюць апошні шлях — канчаюць жыццё самагубствам. Нядаўна ў Бабруйску скокнуў з дзевятага паверха беспрацоўны мужчына. А ўвогуле ў мінулым годзе зафіксавана на Магілёўшчыне 360 выпадкаў суіцыду.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № 943250 серыі А, выдадзенае на імя ФІЛІМОНЧЫКА Алега Мікалаевіча, **лічыць несапраўдным.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.10 | 16.32 | 8.22 |
| Віцебск – | 8.06 | 16.16 | 8.10 |
| Магілёў – | 8.00 | 16.21 | 8.21 |
| Гомель – | 7.51 | 16.24 | 8.33 |
| Гродна – | 8.25 | 16.48 | 8.23 |
| Брэст – | 8.19 | 16.55 | 8.36 |

### МЕСЯЦ

Маладзік 20 студзеня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Грыгорыя, Феафана, Паўла, Макарыя

К. Ідэльфонса, Раймунда

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераважна малавоблачнае надвор'е, месцамі невялікі снег. Тэмпература паветра ў Гродне, Брэсце, Гомелі — 5—7, Магілёве, Віцебску, Мінску — 6—8 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак у надвор'і істотных змен не адбудзецца.

**Медыцынскі прагноз надвор'я на 23 студзеня**

Надвор'е вызначыцца полем павышанага атмасфернага ціску. Утрыманне кіслароду ў паветры будзе вагацца ў межах сярэдніх шматгадовых даных. У такіх умовах паяўленне выражаных метэапатычных рэакцый у большасці метэазалежных хворых малаверагоднае.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца пашырыць фізічную актыўнасць, больш гуляць на свежым паветры.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

**Памерла Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ — старэйшая беларуская паэтэса. Яўгенія Эргардаўна была літаратурным супрацоўнікам «Звязды». На жаль, у нашай рэдакцыі ўжо няма тых, хто памятаў бы Яўгенію Эргардаўну асабіста. Але ўсе мы ведаем з дзяцінства яе вершы — шчырыя, лірычныя, прасякнутыя светлай любоўю да Бацькаўшчыны...**

**Калектыў рэдакцыі раздзяляе гора сям'і і выказвае самыя шчырыя спачуванні.**

**«Звяздоўцы».**







ЗІМОВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ.

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

# ФІЛЬМАТЭКА

- «АСВЯЧЭННЕ ХРАМА»
- «АНЁЛ РАЗБУРЭННЯ»
- «КРЫВАВЫ СПОРТ»
- «У ЛОЖКУ З СУРКОМ, або Панядзелак назаўсёды»

**Новая мастацкая кінастужка «АСВЯЧЭННЕ ХРАМА» створана сумесна кінематаграфістамі Расіі і Бельгіі. Яе пастаноўку па сцэнарыю Фёдара Ярцава ажыццявіў рэжысёр Юрый Русак.**

Фільм зняты ў жанры філасофскай прытчы. Аўтары папярэджваюць нас аб экалагічнай катастрофе, аб небяспецы апынуцца на парозе «сатанінскай дымнай цемры». Фільм агучаны вершамі Ахматавай, Гумілёва, філасофскімі баладамі Дольскага, фрагментамі з твораў Рахманінава і спецыяльна напісанай для фільма музыкай Аляксандра Грэбауса.

Карціна складаецца з трох навэл, у якіх адзін галоўны герой — малады Салдат. У яго няма імені і прозвішча. Ён прытчавы, сабіральны вобраз чалавека, якіператвораны нашай рэчаіснасцю амаль у прывід, адвергнуты жыццём. З 1968 па 1970 ён служыў у арміі на Поўначы, на ядзерным палігоне. Там, дзе з 1954 года, у гады «самай чалавечнай» савецкай улады, праводзілі ядзерныя выпрабаванні, не зважаючы на людзей, што жылі там — мясцовых жыхароў і воінаў доблеснай Савецкай Арміі. «Нам асабліва нічога не расказвалі, — успамінае Салдат, зараз інвалід. — Ваду мы пілі з ручаёў. Вярнуўся з арміі — пачалося моцнае галавакружэнне...» Таму ў пасляармейскім жыцці Салдата вялікае месца займаюць бедныя шматмесныя палаты шпіталяў і бальніц.

Дакументальная непрыдуманая гісторыя героя цесна пераплятаецца з ігравой...

У галоўных ролях Юрый Віралайнен, Алена Андэрэт, Аляксандр Дольскі, Уладзімір Жабін.

**Кінамайстры ЗША прапануюць увазе гледачоў мастацкую кінастужку «АНЁЛ РАЗБУРЭННЯ». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Чарльз Філіп Мур.**

Здавалася б, анёлу патрэбна ўвасабляць добры пачатак і несці ў свет светлае і ўзвышанае. Але вось дадумаліся да анёла разбурэння, і гэтым разбуральнікам з'яўляецца чарговы кінаманьяк.

Выпускаючы яго на экран, аўтары паклапаціліся аб тым, каб да фіналу ён атрымаў па заслугах. Аднак на гэты раз маюцца і нейкія адступленні ад звыклай схемы.

Па-першае, маньяк — не толькі злачынец, але ў нейкай ступені і ахвяра. Роберт Кел быў «зялёным берэтам» у В'етнаме, ваяваў у іншых месцах і сам пацярпеў ад чалавечай жорсткасці. Нейкія падонкі забілі жонку Кела, і ён ператварыўся ў крывавага маньяка, які дзеля помсты забівае вінаватых і невінаватых...

Галоўныя ролі выконваюць Марыя Форд і Чарлі Спрэдлінг.

**Назва амерыканскага фільма «КРЫВАВЫ СПОРТ» і ўдзел у галоўнай ролі Ван Дама не пакідаюць загадак, да якога жанру належыць гэты фільм.**

Перад намі — спартыўны баявік з дэманстрацыяй захапляючых адзінаборстваў па каратэ. Герой Ван Дама, малады барэц Фрэнк Дакс, прыязджае з ЗША ў Ганконг на міжнародныя спаборніцтвы. Ужо ў першы дзень у гэтым свабодным горадзе Дрэнку прыйдзецца ўступіць у бойку, каб абараніць незнаёмую дзяўчыну на шумнай вуліцы. Ёю акажацца амерыканская журналістка, якая прыехала на турнір, каб выкрыць парушэнні спартыўных нормаў. Менавіта таму адзінаборствы на прыз Чорнага Дракона атрымалі назву «крывавага спорту»...

Пастаноўку карціны ажыццявіў рэжысёр А. Арнольд, сцэнарый напісалі Ш. Леціч, К. Косбі і М. Фрыдман.

**У ЗША знята мастацкая кінастужка «У ЛОЖКУ З СУРКОМ, АБО ПАНЯДЗЕЛАК НАЗАЎСЁДЫ». Аўтары сцэнарыя — Дэні Рубін і Хэрольд Рэміс, рэжысёр Хэрольд Рэміс.**

Дзеянне адбываецца ў дзень сурка, калі ў маленькім гарадку ў штаце Пенсільванія праводзіцца традыцыйны абрад сустрэчы вясны, звязаны з гэтым непрыметным грызуном. Але — ніякага ложка! Кожны год у лютым, у першы панядзелак, сурка па мянушцы Філ выганяюць з клеткі і калі пры гэтым добра бачны яго цень, значыць, вясна не за гарамі. Гэтую цырымонію паказваюць па ТВ, для чаго ў горад штогод прыбывае тэлевізійная група, галоўная асоба ў якой — каментатар-сіноптык Філ Конарс.

Але здарылася так, што для Філа (не сурка, а каментатара) гэты дзень стаў паўтарацца зноў і зноў. Небарака трапіў у «часавую пятлю» і, пражыўшы злашчасны панядзелак, уранку вяртаўся да яго пачатку...

Галоўных герояў іграюць Біл Марэй, Эндзі Макдаўэл, Крыс Эліст, Сцівен Табалоўскі і інш.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 23 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі. **9.30** «Вестгейт». Тэлесерыял (ЗША). **10.25** «Аліса ў Краіне цудаў». Мультфільмы. **10.55** «Мецічара — звер марскі». Маст. фільм. **12.20** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». Маст. фільм. «Скарбы Агры». 2-я серыя. **15.00** Навіны. **15.15** Гандлёвы дом. **15.30** «Запаведнік Матсалу». Дак. фільм. **16.00** «23 градусы 40 мінут на ўсход ад Грынвіча». Перадача з Брэста. **16.30** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. «Стану песняй у народзе». Цётка і яе паэзія. **16.50** «Чароўная ры-длёўка». Мультфільм. **17.00** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Трыо «Рамэн». Фільм-канцэрт. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** Вертыкаль. Пошта Прэзідэнта. **19.40** «Вестгейт». **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Сафіко Чыаўрэлі ў маст. фільме «Я абяцала, я пайду...» **23.35** «Супергол». Агляд матчаў еўрапейскіх футбольных чэмпіянатаў. **0.05** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.40** Навіны. **8.15** «Сакрэт Трапіканкі». Серыял. **9.05** «Калі». Вядучы — У. Познер. **9.45** «Смехапанарама». Вядучы — Я. Петрасян. **10.15, 14.20** Мультфільмы. **10.30, 18.35** «Адгадай мелодыю». Тэлегульня. **11.10** «Мы і рынак». **14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.50** Мульціtролія. **15.10** Чароўны свет, ці Сінема. **15.35** «Элен і хлопцы». Серыял. **16.00** ...Да шаснаццаці і старэйшым. **16.30, 0.20** «Сем дзён спорту». **17.20** «Сакрэт Трапіканкі». Серыял. **18.10** Гадзіна пік. **19.00** Тэма. **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.40** «Вайна і мір». 2-я серыя. **22.20** Масква — Крэмль. **22.50**. Чэмпіянат МХЛ. «Спартак» (Масква) — «Лада» (Тальяцці). **23.30** «Т.С.Н.». Серыял.

### Канал «Расія»

**6.30** Час дзелавых людзей. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі. **7.25** Патрабуюцца... **7.30** «Што дзень наступны...» **7.35** Рытміка. **7.50** Усяго патроху. **8.45** «Гісторыя кахання, ці Хет-трык Канстанціна Бескава». **9.15** Кліп-антракт. Т. Вятрова. **9.20** Мульціпульці. **9.50** Ключавы момант. **10.20** Міліцэйская хроніка. **10.30** Музычны экспромт. **10.50** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **11.15** Новая лінія. **15.05** Там-там навіны. **15.20** Музычны клас. **15.50** Каляндар. **16.20** Тры стагоддзі славы. **16.55** «Каму на Русі жыць...» **17.25** Вуснамі дзіцяці. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Адшукваецца небяспечны злачынца». Маст. фільм. **21.25** Рэк-тайм. **21.50** «Суботні вечар з Максімам Дунаеўскім». **22.30** Рака часу. **22.35** Аўтаімгненне. **22.40** Экран крымінальных паведамленняў. **22.50** «Спрут-5». 4-я серыя.

### НТБ

**17.00** «Цудоўныя гады». **17.30** У пошуках прыгод. **18.00, 21.00, 23.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** «Нявеста была ў чорным». Маст. фільм. **21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач». **22.30** Часінка. **23.20** Меламанія: «Пінк Флойд».

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ. **12.10** «Мануэла». **13.00** Хуткая дапамога. **13.30** Парады садаводам. **13.40** Наша кіно. «Шалёная баба» (Расія). **15.05, 21.25** Музычны момант. **15.15** Стыль жыцця. **15.40** «Нямецкая хваля». **16.00** «Так, мы дамы». **16.30** Дзецям пра зверанят. **17.00** Па ўсёй Расіі. **17.10** Паказвае Ленінградская АТК. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўныя навіны. **19.00** «Мануэла». **19.50** Тэлеслужба бяспекі. **20.00** Фільмаскоп. «Апошні бункер» (Украіна). **21.30** Юнга, матрос, артыст... Герман Арлоў. **22.00** Спорт, спорт... **22.15** Дзень нараджэння. **22.20** «Кансерватар». Праграма Ігара Масленікава. **22.45** «Усё ў нас добра». Яфім Шыфрын.

*У наш нялёгкі час склалася новая сям'я. Віншуем Таццяну і Сяргея ТАРАСЕВІЧАЎ з набыццём летуценных маладых спадзяванняў і мараў.*

*Лёс звёў вас на шчасце, жывіце ж у радасці. Моцнага здароўя вам і светлых дзён.*

**Сябры па працы.**



СМЕХАТЭРАПІЯ

# ПАМІЖ НАМІ, СТАРЫМІ...

*Дыялогі ў транспарце*

## Згода

— Вы ведаеце, учора адна маладая сімпатычная асоба адказала мне згодай на маё пытанне!

— А што ж такое вы ў яе спыталі?

— «Ці выходзіце вы на наступным прыпынку?» І яна адказала: «Так, выходжу!...»

## Зразумеў

— Я толькі цяпер зразумеў, чаму жанчыну трэба прапускаць пры ўваходзе ў транспарт наперад...

— І чаму ж?

— Ды каб разгледзець яе не толькі спераду, але і ззаду. І нават паглядзець на яе ножкі, пакуль яна ўзнімаецца па прыступках!

## Камплімент

— Мне днямі адна маладая цікавая спадарожніца камплімент сказала. Я зрабіў заўвагу нейкім хлопцам за вялікі гвалт у тралейбусе, а яна мне і кажа: «Ну што вы бурчыце, быццам шасцідзесяцігадовы стары»!

— Дык ці ж гэта камплімент?

— Але ж мне не шэсцьдзесят, а далёка за семдзесят!

## Яшчэ не стары

— Ды і я, відаць, яшчэ не стары...

— Як гэта?

— А мне ў транспарце дзяўчаты чамусьці зусім месца не ўступаюць...

## Не «бацька»

— А мне нядаўна адна ўступіла месца. І кажа: «Сядайце, калі ласка, бацька!» А я ж даўно ўжо не толькі бацька, але і дзядуля, і нават прадзядуля...

## Прыраўнавалі

— Я вось сяджу і разважаю: чаму гэта нам аднолькавая 50-працэнтная скідка за праезд, як моладзі — студэнтам, навучэнцам?

— Ну як гэта вы адразу не здагадаліся? Ды таму, што хочуць бачыць нас маладымі духам!

— А я думаў, маладым паказваюць: маўляў, глядзіце, што вас чакае, калі дажывяце да пенсіі.

## Маскіроўка

— Я раскажу вам нешта дзіўнае. Еду я аднойчы вечарам у паўпустым аўтобусе. На нейкім прыпынку ўваходзіць маладзіца. Кінула вокам па аўтобусе і села каля мяне, хоць месцаў свабодных было шмат. Села неяк блізка, быццам хінецца да мяне... І ўсё нешта ў мяне ціхенька пытаецца. То якая гадзіна, хоць у самой гадзіннік на руцэ бачу. То пытаецца, ці тым маршрутам яна едзе. То яшчэ нешта... Ды ўсё няголасна, паціху. Няўжо, думаю, пазнаёміцца захацела? Неяк нязвыкла. А можа, цяпер гэтак заведзена?

— Ды не. Відаць, яна выкарыстоўвала вас як маскіроўку. Мусіць, у аўтобусе ехалі нейкія бамбізы, якія на яе «вока паклалі»...

— Якую гэта «маскіроўку»?

— Звычайную. Яна рабіла выгляд, быццам едзе са знаёмым дзядзькам ці суседам. Тады і бамбізы не будуць чапляцца...

## Такая розніца

— Я заўважыў, што калі спяшаюся да тралейбуса, то вадзіцель-мужчына заўсёды цярпліва чакае, пакуль я ўвайду, а вадзіцель-жанчына часта зачыняе дзверы перад самым маім носам і адпраўляе тралейбус.

— Гэта ж зусім зразумела. Мужчына чакае ў знак салідарнасці. Ён разумее, што калі вы спяшаецеся — значыць едзеце да жанчыны. А вадзіцель-жанчына наўмысна зачыняе дзверы. Яна думае: «Мой недзе таксама спяшаецца да іншай жанчыны, як гэты дзядзька. Дык няхай панервуецца яшчэ ды пачакае наступнага тралейбуса».

## Нецярплівасць

— Паглядзіце паціху: нешта вунь тая маладзіца на нас паглядае, ды быццам нецярпліва...

— Яна мусіць думае: «Хутчэй бы гэтыя старыя балбатуны выйшлі ды месца вызвалілі. Прысесці хочацца. Стамілася».

— А можа, і сапраўды выйдзем ды прагуляемся крыху, падыхаем свежым паветрам? Вы згодны?

— Згодзен...

Яны спыталіся ў жанчыны, што стаяла побач: «Вы выходзіце на наступным прыпынку? Не?» І разам уздыхнулі: «Шкада. Вельмі шкада!» І павольна сышлі з прыступак на тратуар.

**Запісаў Валянцін НАЛІМАЎ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

***НАШ АДРАС***: *220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
***ТЭЛЕФОНЫ***: *прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71.* ***ФАКС***: *32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 325.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12